Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 45 (4896) 11 лістапада 2016 г.



# Палітра «Лістапада»

**У сусветным кінематографе шмат перамог, пра што сведчаць міжнародныя кінафестывалі. Але ў Мінску раз на год кінематограф перамагае на цэлы тыдзень: тут пануе «Лістапад». Сёлетні фестываль пераадолеў шмат цяжкасцей і зноў сабраў лепшыя ўзоры кінематографа амаль з 50 краін. «Лістапад» сёлета вярнуў сабе чырвоную дарожку (не ў класічным яе разуменні: лесвіца кінатэатра «Масква» была падсветлена чырвонымі ліхтарамі), таму адкрыццё было амаль «оскараўскае» — з зоркамі айчыннага кіно ў сукенках і смокінгах, папарацы і надзвычай святочнай атмасферай. Так заўжды бывае, калі падзея не толькі жаданая, але і вартая ўвагі: сёлета за тыдзень аматарам кіно Беларусі прапанавалі паглядзець больш чым 150 фільмаў, з іх больш за 80 удзельнічала ў конкурсных праграмах.**



Фота Надзеі Бужан.

*Спецыяльны прыз Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За захаванне і развіццё традыцый духоўнасці ў кінамастацтве» на ХХІІІ Мінскім міжнародным кінафестывалі «Лістапад» атрымаў народны артыст Беларусі і СССР Генадзь Сцяпанавіч Аўсяннікаў. За плячыма ў артыста больш за 70 роляў у кіно, праца ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы даўжынёй у жыццё. Мы ведаем артыста па фільмах «Апошняе лета дзяцінства», «Доўгія вёрсты вайны», «Зала чакання», па ролях у спектаклях «Паўлінка», «Трыбунал» і шмат якіх іншых, дзе артыст заняты зараз. За ўзнагароду акцёр падзякаваў сапраўды незвычайным спосабам: калі зала сціхла, Аўсяннікаў са сцэны прамовіў словы аднаго са сваіх тэатральных персанажаў з твора Баршчэўскага «Шляхціц Завальня»: «Я паўтару тое, што сказаў мне бацька: “Ідзі ў свет, шукай сабе долі, любі Бога, бліжняга і праўду. Воля творцы цябе не пакіне”».*

Традыцыйным стала адкрыццё «Лістапада» з разбіваннем талеркі, але чалавека, які быў вартаўніком гэтай традыцыі, Расціслава Янкоўскага, не стала. На цырымоніі ўзгадалі гісторыю аднаго з адкрыццяў кінафестывалю: калі 10 год таму арганізатары набылі талерку, але не ведалі, што яна не б’ецца. Старшыня фестывалю стукаў ёю аб штатыў невядома колькі разоў, ды адчайна махнуў рукой і разбіў — так хацелася Расціславу Іванавічу адкрыць фестываль. Сёлета яго адказную місію выканаў старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька.

«Лістапад» сёлета стаў падзеяй надзвычай важнай: падтрымаць кіно ў Год культуры неабходна, што адзначыў і кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка ў прывітальным лісце да тых, хто сёлета дакрануўся да фестывальнага жыцця: «За гады свайго існавання “Лістапад” стаў аўтарытэтным форумам, які садзейнічае культурнаму ўзаемаўзбагачэнню і папулярызацыі лепшых дасягненняў беларускага і замежнага кінематографа. Па добрай традыцыі ў лістападзе сталіца Беларусі прымае вядомых рэжысёраў, раскрывае Беларусі багатую палітру мастацкіх і дакументальных фільмаў з усяго свету. Фестываль праходзіць у Год культуры, калі асаблівая ўвага дзяржавы прыцягнута да падтрымкі творчых ініцыятыў дзеячаў мастацтва і пошуку перспектыўных моладзевых праектаў».

Усе стужкі «Лістапада» прагледжаныя, амаль усе пераможцы галоўнага кінафоруму краіны вядомыя (пра гэта мы будзем весці гаворку ў наступных нумарах). Апошняя кропка — не проста закрыць фестываль, а пакінуць гледачу любоў да кінематографа. А тое, што яна ёсць, за гэты тыдзень стала яшчэ больш зразумела: варта ў кінатэатры выключыць святло, і мы гатовыя працягваць глядзець кіно.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народную артыстку Беларусі Людмілу Лаўрыновіч з юбілеем. «Сваёй шматграннай творчай дзейнасцю Вы зрабілі значны ўнёсак у развіццё, захаванне і ўзбагачэнне лепшых традыцый нацыянальнага тэатральнага мастацтва Беларусі, заслужана набылі прызнанне, шчырую любоў і павагу гледачоў. Дзякуючы Вашаму яркаму таленту з'явіўся шэраг выдатных мастацкіх вобразаў, якія прыцягваюць глыбінёй і шматпланавасцю», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Дзень беларускага пісьменства 2017 года асаблівы: 500-годдзе беларускага кнігадрукавання і 1155-годдзе горада Полацка. Як адзначыла намеснік Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Наталля Качанава падчас пасяджэння Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства ў Полацку, гэтыя дзве падзеі павінны быць асноўнымі ў канцэпцыі свята.

✔ У 2017-м нас чакаюць 135-годдзе з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, юбілейныя даты Цішкі Гартнага і Алеся Гаруна, Янкі Брыля і Пімена Панчанкі і іншых, паведаміла падчас пасяджэння Нацыянальнага аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч. Міністэрства інфармацыі ўжо пачало распрацоўку юбілейных мерапрыемстваў. Тэма падрыхтоўкі да знакавых юбілеяў знайшла шырокае адлюстраванне ў канцэпцыях правядзення такіх найбуйнейшых культурна-інфармацыйных форумаў, як Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, Дзень беларускага пісьменства ў Рагачове, рэспубліканскае свята «Купалле» («Александрыя збірае сяброў»).

✔ У эфіры АНТ 13 лістапада стартуе агульнарэспубліканскі тэлевізійны конкурс дзіцячай творчасці «Талент краіны». У адборачных турах узялі ўдзел дзеці з усёй Беларусі ва ўзросце ад 5 да 15 гадоў, якія ўжо маюць досвед паспяховых публічных выступленняў, — лаўрэаты нацыянальных і міжнародных конкурсаў. У выніку ў праект было адабрана 48 удзельнікаў (сольныя выканаўцы і калектывы), якія выступяць у 4 намінацыях: «Вакал», «Харэаграфія», «Інструментальнае мастацтва», «Арыгінальны жанр».

✔ Праслаўленая кантата «*Lux Aeterna*» («Вечнае Святло») прагучыць на ўрачыстым адкрыцці XXI Міжнароднага фестывалю арганнай музыкі «Званы Сафіі» ў Полацку. Сусветна вядомы твор у Сафійскім саборы выканае беларуская музычная капэла «Санорус». Мерапрыемствы фэсту праходзяць у Полацку з 23 кастрычніка, усяго запланавана 7 канцэртаў, у якіх удзельнічаюць музыканты з Беларусі, Расіі, Літвы, Польшчы, Германіі і Японіі.

✔ Беларусь перамагла ў намінацыі «Агратурызм» рэйтынгу *National Geographic Traveler Awards 2016*. На другім месцы — Італія, на трэцім — Францыя. Беларусь таксама ўвайшла ў топ-5 краін для аздараўленчага адпачынку. Агратурызм — адзін з відаў турызму, які найбольш паспяхова развіваецца ў нашай краіне. Сёння зарэгістравана больш як 2260 аграсядзіб, летась іх паслугамі скарысталіся 294,3 тыс. аматараў карыснага і цікавага адпачынку.

## Мерыдыяны лучнасці

# Сустракайце: Таджыкістан!..

**Навіна для прыхільнікаў творчасці, прыгожага слова і… усходніх тонкасцей: пачаліся Дні культуры Таджыкістана ў Беларусі, якія працягнуцца да 14 лістапада. У чым іх асаблівасць? Якая роля Пасольства Таджыкістана і далейшыя крокі ў працы дыпламатычнай місіі па развіцці двухбаковых адносін нашых краін у сферы культуры і, у першую чаргу, літаратурнага дыялогу? Гэтыя пытанні «ЛіМ» адрасаваў Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь спадару Казідаўлату Каімдодаву.**

«Дыпламатычнае прадстаўніцтва як звяно трывалай сувязі паміж краінамі вырашае не толькі палітычныя пытанні — ахоплівае ўвесь спектр стасункаў, у тым ліку, безумоўна, і культурна-гуманітарны кірунак. У гэтым рэчышчы варта разглядаць і сам факт правядзення Дзён культуры. Уявіце: дзве суверэнныя дзяржавы прадстаўляюць сваю культуру, нацыянальную музыку, песні, танцы, народную творчасць. Аднаўляецца ўсё, што было несправядліва забытае», — разважае кіраўнік дыпламатычнай місіі Таджыкістана.

Сёлетнія Дні культуры абяцаюць быць вельмі насычанымі. Выступленне артыстаў у суправаджэнні ансамбля «Зебо», прэзентацыя перакладу на таджыкскую мову кнігі А. Дударава ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, Дні кіно (пляцоўкай для якіх абраны кінатэатр «Беларусь»), выстаўка карцін сучасных мастакоў у Мастацкай галерэі Міхаіла Савіцкага…

Дарэчы, да імпрэз і канцэртаў гэтым разам ёсць шанц далучыцца не толькі ў сталічных аматараў культуры. Канцэрт майстроў мастацтваў Таджыкістана чакаецца і ў Бабруйску, на сцэне тэатра драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча.

Але ж і гэта не ўсё! Як не згадаць перспектыву асабістых сустрэч кіраўнікоў творчых груп Таджыкістана са сваімі калегамі з Беларусі, якія маюць цудоўную магчымасць пабачыць адзін аднаго ды абмяняцца меркаваннямі адносна самых розных праблем…

А паразважаць ім будзе над чым. Дый парадавацца ёсць нагода.

«За гады незалежнасці велізарных поспехаў дасягнулі і таджыкская, і беларуская літаратура, — перакананы спадар Казідаўлат Каімдодаў. — Толькі за апошнія гады пераклалі і выдалі на таджыкскай мове не менш як 5 кніг беларускіх аўтараў. Нядаўна ў Выдавецкім доме "Звязда" пабачыў свет зборнік твораў сучасных таджыкскіх паэтаў на беларускай мове "Пад зоркай Рудакі", часопіс "Памир" пазнаёміў сваіх чытачоў з беларускай прозай і паэзіяй, часопіс "Нёман", у сваю чаргу, — з таджыкскай літаратурай. На беларускую мову перакладзеная кніга пра нашага Прэзідэнта "Подзвіг Эмамалі Рахмона"».

Што ж да цікавых праектаў… Ёсць, прыкладам, перспектыва правядзення Дзён тэлебачання Таджыкістана ў Беларусі і Дзён тэлебачання Беларусі ў Таджыкістане. Ва ўсякім разе, магчымасць іх арганізацыі абмяркоўваецца.

А пакуль… Пасольства запрашае ўсіх аматараў і прыхільнікаў народнай творчасці Таджыкістана на цікавыя мерапрыемствы, якія ладзяцца ў межах Дзён культуры. Сумаваць не будзеце!

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Клопат пра кнігі

**Саюз пісьменнікаў Беларусі актыўна супрацоўнічае з айчыннымі выдавецтвамі, такімі як Выдавецкі дом «Звязда», «Чатыры чвэрці», «Мастацкая літаратура». Так, Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ сумесна з выдавецтвам «Чатыры чвэрці» была заснаваная кніжная серыя «Мінскія маладыя галасы». Паводле слоў старшыні аддзялення Міхася Пазнякова, выйшла ўжо 19 кніг, 13 аўтараў прынятыя ў СПБ, 4 з'яўляюцца кандыдатамі на ўступленне.**

А пачалося ўсё пяць гадоў таму. У 2011-м пабачыла свет дэбютная кніга вершаў пісьменніцы Яны Явіч «Сувязь жыццяў». Сярод іншых — зборнікі лірыкі «Пульс навальніц» Маргарыты Латышкевіч, «Мой анёл прысніў мяне...» Ганны Чумаковай, «На колькі слоў…» Людмілы Клачко. А сёлета ў гэтай серыі выйшлі кнігі «Цярністы шлях» Кацярыны Стройлавай і «Шлях у Нябёсы» Марыны Пашук (Наследнікавай).



Фота Кастуся Дробава.

Што прапануюць дасведчаныя пісьменнікі? У тым жа 2011 годзе Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ заснавана яшчэ адна кніжная серыя — «Бібліятэка Мінскага гарадского аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі». За няпоўных 5 гадоў тут выйшла 28 кніг, сярод якіх — зборнік прозы і паэзіі Віктара Шніпа «Тутэйшая туга» (2014), зборнік лірыкі Валерыя Максімовіча «Сярод блукаючых планет» (2014). Сёлета гэтую скарбонку папоўнілі «Венчыкі златыя» Наталлі Саветнай, «Імя тваё» Уладзіміра Шуглі, «І няма нічога даражэй» Міхася Пазнякова, «Белы бераг» Іны Фраловай ды іншыя. У выдавецкіх планах — шмат новых кніг паэзіі і прозы маладых і сталых аўтараў.

**Арына КРАЙКО**

# Паэты селі за парты

**Грамадская літаратурная школа пачала працаваць у офісе Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Напрыканцы кастрычніка тут «за парты» селі паэты.**

Як распавяла сябар СПБ Тамара Мазур, урок для прыхільнікаў паэтычнага слова правяла старшы выкладчык кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы, паэтэса Святлана Тарасава. Яна адзначыла, што сёння на змену філолагам-«шасцідзясятнікам» прыйшло шмат людзей з тэхнічнай адукацыяй. Апошнім нярэдка бракуе ведаў пра жанравыя асаблівасці і формы сучаснай паэзіі, з-за чаго паэты не могуць адчуваць сябе дастаткова ўпэўненымі ў крытычнай прасторы.

Сярод слухачоў былі не толькі паэты-пачаткоўцы, але і сталыя аўтары, у якіх па некалькі выдадзеных зборнікаў. Яны з цікавасцю пазнаёміліся, паўтарылі ці замацавалі веды пра жанравыя асаблівасці оды, малітвы, элегіі, балады, вершаванае прысвячэнне. Занатоўвалі з манітора ўзоры трыялета, санета, віланэлі, а таксама «экзатычных» паэтычных формаў, як, прыкладам, лімэрык, танка, хоку, туюг, таўтаграма ды іншыя. Некаторыя з прысутных паэтаў не ўстрымаліся пачытаць адпаведныя пэўным прыкладам уласныя творы, з-за чаго ўрок зацягнуўся больш чым на дзве гадзіны.

Развітваючы, слухачы Гродзенскай грамадскай літаратурнай школы не ўтойвалі, што спробы атрымаць такія ж веды праз слоўнікі не ідуць ні ў якое параўнанне з «жывым» урокам.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

# Магія Веры

**Брытанская дзяўчына Фэйт Элізабэт Джоан Рыч упершыню патрапіла на беларускамоўную імшу каталіцкага прыхода Лондана 25 кастрычніка 1953 года. І з таго моманту ў яе жыцці з'явілася беларускае слова. А 25 кастрычніка 2016-га ва ўтульнай зале Літаратурнага музея Максіма Багдановіча сабралася кола цікаўных і захопленых — тых, хто быў знаёмы з самой Верай Рыч, яе творчасцю, і тых, хто жадаў пазнаёміцца з чароўным светам паэзіі.**

Імпрэзу наведала Пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі Фіёна Гіб. Зацікавіліся мерапрыемствам мінскія школьнікі: навучэнцы гімназіі № 50 і гімназіі №4, а таксама студэнты Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта.

Сапраўды, шлях Веры Рыч да беларускай літаратуры быў незвычайны. Карэнная англійская дзяўчына нечакана для сябе адчула прагу знаёмства са светам славянскіх культур. Пачала вывучаць украінскую і беларускую мовы, а неўзабаве і перакладаць з іх. Ішлі гады, і ў хуткім часе пабачыла свет першая анталогія беларускай паэзіі па-англійску *«Like Water, Like Fire: Anthology of Byelorussian Poetry from 1828 to the Present Day» (UNESCO Collection of Representative Works)* («Як вада, як агонь: Анталогія беларускай паэзіі з 1828 г. да сёння»).

Сярод прысутных быў чалавек, якому пашчасціла асабіста ведаць Веру Рыч, — літаратуразнаўца прафесар Вячаслаў Рагойша.

Падчас вечарыны зала Літаратурнага музея Максіма Багдановіча поўнілася песнямі на вершы Янкі Купалы, Ларысы Геніюш і Максіма Багдановіча ў выкананні Алеся Камоцкага і Таццяны Матафонавай-Грыневіч.

**Валянціна КАРОТКІНА,**
**малодшы навуковы супрацоўнік**
**Літаратурнага музея Максіма Багдановіча**

# Класіка па-беларуску для Парыжа і Масквы

Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова выступіў у сусветна вядомай зале «Гаво» ў Парыжы з французскім піяністам Люкам Дэбаргам. Магчымасць пазнаёміцца з Люкам Дэбаргам у беларускіх слухачоў з'явілася дзякуючы мастацкаму кіраўніку і галоўнаму дырыжору Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь Яўгену Бушкову. Ён заўважыў маладога таленавітага піяніста на XV Міжнародным конкурсе імя П. І. Чайкоўскага, яшчэ да аб'яўлення вынікаў пазнаёміўся з ім і запрасіў выступіць у Мінску. Потым стала вядома, што Люка Дэбарг атрымаў IV прэмію конкурсу, прыз Асацыяцыі музычных крытыкаў Масквы і неверагодную і амаль усеагульную любоў публікі.

На гэты раз піяніст запрасіў камерны аркестр Рэспублікі Беларусь удзельнічаць у яго першым вялікім публічным канцэрце ў Парыжы. Люка Дэбарг з аркестрам 8 лістапада ў зале «Гаво» выканаў Канцэрт № 2 Л. ван Бетховена. Таксама прагучала струнная серэнада П. І. Чайкоўскага і «Малітва» заснавальніка камернага аркестра А. Янчанкі.

— Мы рады, што арганізатары пагадзіліся з нашай прапановай уключыць у праграму беларускую музыку. Вельмі прыемна і тое, што Люка Дэбарг запрасіў акампаніраваць яму менавіта наш аркестр, — распавёў Яўген Бушкоў.

Класіка ў выкананні аркестра з Беларусі прагучыць таксама і ў Маскве. Канцэрт Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава ўвайшоў у склад Абанемента Маскоўскай філармоніі пад назвай «Шэдэўры рускай сімфанічнай музыкі». У канцэртнай зале імя П. І. Чайкоўскага 10 лістапада аркестр выканаў «Італьянскае капрычыа» П. І. Чайкоўскага, Рапсодыю на тэму Паганіні для фартэпіяна з аркестрам і «Сімфанічныя танцы» С. Рахманінава. У якасці саліста выступіць выдатны піяніст з Вялікабрытаніі Пітэр Донахау. Перад тым, як прадставіць праграму ў Маскве, сімфанічны аркестр парадуе публіку Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

**Юлія КАРДАШ**

# Як працуе машына часу,

**зразумелі наведвальнікі юбілейнага фестывалю фантастыкі, фэнтэзі і камп'ютарных гульняў *«UNICON»*.**



Ад юбілейнага заўсёды чакаеш лепшага, але сёлета фестываль пахіснуў давер да сябе. Перанос даты, змена месца, праблемы ў арганізацыі наводзілі на пытанне: ці варта?

Варта, вырашылі гледачы. «Юнікон» у чарговы раз даказаў, што на памылках вучацца. І ад першай сустрэчы, якая ладзілася ў фармаце вячорак для сваіх, да пятага двухдзённага канвента прайшоў немалы шлях.

Лепшым рашэннем сёлета стала новая пляцоўка — СК «Уручча». Два паверхі, тры залы са стэндамі, крамкамі і кафэ. Сустрэчы і майстар-класы з вядомымі пісьменнікамі. Прэзентацыя фантастычнага фільма «Неруш» і сустрэча са сцэнарыстамі і грымёрамі карціны. Акуляры віртуальнай рэальнасці, выступленне музычных гуртоў. У агульным: два дні з насычанай праграмай.

Сапраўдны падарунак фанатам — прывезеная з Масквы «*DeLorean*». Легендарная машына часу з фільма «Назад у будучыню», чарга ахвотных сфатаграфавацца з ёй.

Усяго на канвенце было прадстаўлена больш за 30 стэндаў: пачынаючы ад камп'ютарных гульняў і мультфільмаў, заканчваючы «Гары Потэрам» і «Ведзьмаком». Кожны з прадстаўнікоў забаўляў публіку рознымі лекцыямі і конкурсамі: тут можна было ўбачыць і бой на мячах, і спаборніцтвы па настольных гульнях, і віктарыны на веданне сусвету стэнда. Пераможцы не сыходзілі без прызоў, а для тых, каму пашанцавала менш, пры кожным стэндзе былі адкрыты крамкі з тэматычнымі сувенірамі.

**Аляксандра ГАРАЧКА**

# Да кола Аслюка

## запрашае рэтраспектыва беларускага кінадакументаліста

«Музей гісторыі беларускага кіно» сумесна з праектам *BelarusDocs* ладзяць першую ў Беларусі рэтраспектыву выдатнага беларускага кінадакументаліста Віктара Аслюка. За 6 дзён будуць паказаны 18 фільмаў, знятых за 20 гадоў, пачынаючы з 1994 года.

Віктар Аслюк — рэжысёр і сцэнарыст, выпускнік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Беларускай акадэміі мастацтваў. З 1995 года працуе на Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». З 2003 года — сябра Еўрапейскай кінаакадэміі. Рэжысёр зняў больш чым 40 дакументальных фільмаў. Удзельнік і лаўрэат шматлікіх міжнародных кінафестываляў. У 2003-м фільм Віктара Аслюка «Мы жывём на краі» быў намінаваны на прэмію Еўрапейскай кінаакадэміі ў намінацыі «Лепшы кароткаметражны фільм». Ёсць магчымасць падчас рэтраспектывы паглядзець гэтую стужку, як і знакаміты фільм «КОЛА» 2004 года, што прынёс аўтару шматлікія міжнародныя ўзнагароды, а таксама «Драўляны народ», «Шчаслівыя людзі» і іншыя карціны. Прагляды пройдуць з 15 па 1 лістапада.

**Марыя АСІПЕНКА**

## Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**14 лістапада** — *на творчую сустрэчу з пісьменніцай Тамарай Бунта ў межах праекта «Ад культуры чытання да культуры асобы» ў СШ № 40 (вул. Фабрычная, 27). Пачатак у 12.30.*

**14 лістапада** — *на пасяджэнне клуба творчых жанчын «Спадарыня» ў Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа (вул. Акадэмічная, 5). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**15 лістапада** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у гімназію № 1 г. Бабруйска (вул. Ульянаўская, 27). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**15 лістапада** — *на свята дзіцячай кнігі з удзелам пісьменніцы Тамары Бунта ў публічную бібліятэку № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**15 лістапада** — *у літаратурны клуб «Аўтограф» (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з празаікам і паэтэсай Ірынай Тулупавай. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**16 лістапада** — *на творчы вечар паэтэсы і перакладчыцы Лізаветы Палеес, якія адбудзецца ў Палацы ветэранаў (вул. Я. Купалы, 21). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**16 лістапада** — *на XXIV Мінскія паэтычныя чытанні, прысвечаныя 125-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, з удзелам паэтаў. Імпрэза пройдзе ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. Веры Харужай, 16). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**17 лістапада** — *у студыю мастацкага чытання «Вобраз» пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**18 лістапада** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «Спадчына» пры гімназіі № 35 (вул. Кіжаватава, 70). Пачатак а 14-й гадзіне.*

## Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**18 лістапада** — *на юбілейную творчую вечарыну літаратуразнаўцы, літаратурнага крытыка, паэтэсы Святланы Тарасавай «Калі душа радок дыктуе» ў Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. Макаёнка (г. Гродна, вул. Савецкіх Пагранічнікаў, 51/2). Пачатак а 16-й гадзіне.*

## Дайджэст

• Музей Пецярбургскай дзяржаўнай мастацка-прамысловай акадэміі імя А. Л. Штігліца ў канцы лістапада прадэманструе наведвальнікам партрэт Мікалая II з цікавай гісторыяй. Партрэт, напісаны Ільёй Галкіным у год каранацыі імператара, знайшоўся… на адваротным баку партрэта У. І. Леніна! Мастак Уладзіслаў Ізмайлавіч такім незвычайным спосабам «схаваў» выяву цара ад знішчэння бальшавікамі. Амаль 70 год карціна з Леніным знаходзілася ў ленінградскай школе № 206 (дзе, дарэчы, вучыліся Аркадзь Райкін і Сяргей Даўлатаў), пакуль не была сапсаваная. Рэстаўрацыя палатна пачалася ў 2013 годзе. Незвычайная знаходка прыцягнула ўвагу, і вось зараз, пасля некалькіх год працы, глядач убачыць у музеі абодва партрэты.

• Стэндфардскі ўніверсітэт набыў вялікі архіў Іосіфа Бродскага, які калісьці належаў лонданскім сябрам пісьменніка Дзіяне і Алану Маерсам. Сярод дакументаў калекцыі — рукапісы, лісты, фотаздымкі, вядомыя і невядомыя вершы, а таксама стэнаграма судовага пасяджэння па справе паэта (1964 год). Набыццё архіва адразу пераўтварыла Стэндфард у адзін з найбуйнейшых цэнтраў вывучэння спадчыны творцы. Частка матэрыялаў прадстаўлена на выстаўцы «Распакоўваючы гісторыю: новыя калекцыі бібліятэкі Гувераўскага інстытута», што будзе ладзіцца на тэрыторыі ўніверсітэта да 25 лютага.

• Спроба зрабіць «сэлфі» ў Нацыянальным музеі старажытнага мастацтва ў Лісабоне для бразільскага турыста скончылася надзвычай дрэнна. Адзін няўдалы крок — і замест фотаздымка са статуяй архангела Міхаіла атрымалася непапраўная страта для музейнай маёмасці. Скульптура пачатку XVIII стагоддзя пахіснулася і зляцела са свайго пастаменту, раскалоўшыся на некалькі асобных частак. Сацыяльныя сеткі спрацавалі хутка: адразу ж пасля інцыдэнту ў фэйсбуку з'явілася фота зруйнаванай статуі з іранічным подпісам, якое апублікаваў хтосьці з наведвальнікаў. Супрацоўнікі музея скардзяцца на недахоп вартаўнікоў: у 84 залах працуюць толькі 64 захавальнікі. Магчыма, калі б сітуацыя была іншай, скульптура архангела Міхаіла засталася б цэлай.

• Галівудскія зоркі Арнольд Шварцэнэгер і Джэкі Чан атрымалі ролі ў кітайска-расійскім фільме «Вій 2: Падарожжа ў Кітай». Гэта карціна — сіквел да фільма расійскага рэжысёра Алега Сцепчанкі «Вій 3D», які быў зняты па матывах аповесці Мікалая Гогаля і выйшаў на экраны ў 2014 годзе. Другая частка «Вія» распавядзе пра англійскага падарожніка, што трапіў у Кітай па загадзе Пятра I, каб зрабіць для цара карты Далёкага Усходу. Удзел у падрыхтоўцы кінастужкі Джэкі Чана і яго кампаніі *Jackie Chan JCE* стаў вядомы падчас візіту акцёра ў Маскву на Фестываль кітайскага кіно.

## Ідзе падпіска на I паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | падпісны індэкс |
|---|---|---|
| Для індывідуальных падпісчыкаў | 4 р. 30 к. | 63856 |
| Ведамасная падпіска | 12 р. 10 к. | 638562 |
| Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў | 2 р. 80 к. | 63815 |
| Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі | 9 р. 10 к. | 63880 |

# Мікалай ЧАРГІНЕЦ:
# «Пісьменнік — гэта прафесія»

**Напрыканцы лістапада Саюз пісьменнікаў Беларусі збірае з'езд. Ёсць пытанні, што ідуць ад жыцця ўсёй краіны, ёсць выключна прафесійныя і нават чалавечыя. Напярэдадні з'езда мы паспрабуем зразумець настрой, з якім яго чакае арганізацыя, якая была ўтворана на пачатку XXI стагоддзя, але свае карані вядзе з XX. З таго часу, калі ў грамадстве была традыцыя чытаць і шанавалі тых, хто піша, — асоб. Чым цікавы наш час, якія задачы ставіць перад творцамі, разважае старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец:**



## ПРА СУПОЛЬНАСЦЬ

— Спаконвеку павялося, што людзі шукалі аднадумцаў, блізкіх па духу, імкнуліся быць пачутымі. Нездарма ж ствараліся спартыўныя таварыствы ці тэатральныя. Што тычыцца пісьменнікаў, то гэта частка інтэлігенцыі, якая заўсёды імкнулася да аб'яднальных працэсаў. У нас Саюз пісьменнікаў быў заснаваны ў 32-м годзе, арганізацыя, куды ўваходзілі Янка Купала і Якуб Колас, іншыя вядомыя літаратары. Але пасля таго, як Савецкі Саюз распаўся на суверэнныя дзяржавы, узнікла пытанне: што далей будзе з Саюзам пісьменнікаў у Беларусі? Я член таго Саюза з 1974 года. Для мяне было важна, каб пісьменнікі не сыходзілі ў палітычныя гульні, а працягвалі ствараць новыя кнігі на карысць краіне. Таму група пісьменнікаў, якія мыслілі ў дзяржаўным ключы, нагадалі сваім калегам: давайце гаварыць пра літаратуру. Мы стварылі Саюз пісьменнікаў Беларусі (атрымалі гэтую назву, звярнуўшыся ў адпаведныя органы). Фактычна аднавілі назву, якая была дадзена пры заснаванні Саюза. Таму мы можам сябе лічыць яго творчымі пераемнікамі: гэта супольнасць, якая паставіла перад сабой мэту не разбураць — ні літатаруру, ні дзяржаўнасць, а ўмацоўваць іх, ствараючы новыя творы.

Дзяржава нас у гэтым падтрымлівае: мы па-ранейшаму знаходзімся ў Доме літаратара, і наш Саюз прыцягвае да сябе ўвагу іншых творцаў, папаўняецца новымі сябрамі, хоць у пэўны перыяд не пазбеглі памылак, паспешліва прымаючы людзей, якія не апраўдалі сябе як паэты, як пісьменнікі. Мы прыпынілі гэтую практыку, адмовілі за апошнія гады больш за 700 прэтэндэнтам на членства ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі. Лічу нашым дасягненнем, што ўдалося арганізаваць працу абласных аддзяленняў.

## ПРА КНІГІ

— Добра наладжаная праца дазваляе нам развіваць літаратуру: штогод дзякуючы членам Саюза пісьменнікаў Беларусі выходзіць больш за 300 кніг як у дзяржаўных, так і ў недзяржаўных выдавецтвах. Прэзідэнт нас падтрымаў, калі сказаў: «Я баюся згубіць кнігу». Пакінуць без кнігі краіну нельга. Для гэтага самы лепшы шлях — умацоўваць пісьменніцкую брацію, патрабаваць ад яе таленавітых твораў. Прэзідэнт гэта і меў на ўвазе, калі сказаў, што нам патрэбныя "Узнятая цаліна" ці "Вайна і мір". Падчас апошняй сустрэчы я адказаў, што ў нас ужо фактычна напісаная «Вайна і мір» — словамі Быкава, Шамякіна, Макаёнка, Танка і іншых выдатных творцаў, што сталі нашымі класікамі. Але нам трэба думаць пра тое, каб літаратура больш актыўна адгукалася на сучасныя тэмы. Пісьменнікі нібыта сцішыліся на некаторы час. А калі ўважліва прыглядзецца да твораў, то прыйдзе разуменне: беларуская літаратура працягваецца. Можа быць, нам, акрамя заснаваных серый і выдадзеных кніг, не хапае яшчэ клопату пра імідж пісьменніка — каб чытачу не засцілаў вочы экран камп'ютара. Але мы імкнёмся прыходзіць да чытача і праз інтэрнэт-прастору, абнаўляем сайт, каб рабіць аўтараў больш пазнавальнымі. Нядаўна, напрыклад, у інтэрнэце знаходжу, што амерыканскае агенцтва прадае мае кнігі (яны перакладзеныя на 16 ці 17 моў свету). Паспрабаваў разабрацца, на якой падставе яны гэта робяць. Яны патлумачылі: правадзілі маніторынг, спадар Чаргінец уваходзіць у 180 найбольш вядомых у свеце пісьменнікаў, таму вырашылі знаёміць з яго творамі… У нас ёсць магчымасць праз тое ж сеціва знаходзіць кантакты з прадстаўнікамі іншых культур і сваіх чытачоў заваёўваць.

Не спісваў бы пакуль друкаваную кнігу: жыццё паказвае, што яе запатрабаванасць даволі высокая, давер да яе зусім іншай вартасці. Мы зыходзім з таго, што любая кніжка знаходзіць свайго чытача.

## ПРА ЧЫТАННЕ

— Самае страшнае, што быў час, калі ў нас знізіўся аўтарытэт кнігі. Зараз сітуацыя выпраўляецца. Але мы хацелі б яе вывучыць глыбока праз апытанне: падрыхтуем спіс пісьменнікаў, якія часцей за ўсё выдаюцца, і прапануем чытачам выказаць сваё меркаванне па кожным. Падобны маніторынг мы праводзілі па бібліятэках: выяўлялі, ці ёсць у іх кнігі пісьменніка, калі ёсць, то колькі і як часта чытачы звярталіся да іх. Гэта дазволіла выявіць бібліятэкі, дзе няма канкрэтных кніг, і звярнуць на гэта ўвагу мясцовых уладаў, ды і саміх пісьменнікаў: мы атрымалі карціну запатрабаванасці аўтараў. Таму што нельга, выдаўшы кнігу, лічыць, што ўвесь свет ля тваіх ног. Трэба, каб быў справядлівы суддзя — чытач.

Нас засмучае, што мала кніг выдаецца на беларускай мове, але мы і супраць таго, калі кажуць: хто піша па-руску, той не беларускі пісьменнік. Мы, напрыклад, уносілі прапановы па ўмацаванні пазіцый беларускай мовы. Згодна з нашай прапановай, было прынята рашэнне пісаць назвы вуліц па-беларуску, указальнікі на дарогах, назвы населеных пунктаў. Можна спакойна ўмацоўваць пазіцыі беларускай мовы, пакрокава. Мы вітаем утварэнне гурткоў ці аб'яднанняў па вывучэнні беларускай мовы.

Як рускамоўны пісьменнік я выступаю за тое, каб было больш кніг на беларускай мове — гэтым працую на беларускую культуру. Напрыклад, я цудоўна авалодаў беларускай мовай, пры тым, што вучыўся ў Мінску ў сярэдняй рускай школе. Потым была школа працоўнай моладзі: сям'я шматдзетная, жылі бедна. Скончыў школу трэнераў і БДУ, паступіў на журфак, потым перавёўся на юрфак — нідзе беларускай мовы не было. Але я паважаю беларускую мову. У нашых умовах, калі абедзве мовы дзяржаўныя, немагчыма патрабаваць ад пісьменнікаў, каб пісалі па-беларуску. Можна перакладаць кнігі на беларускую, мяне радуе, калі перакладаюць мае творы. Цяпер пераклалі «Аперацыя "Кроў"», карыстаецца ўвагай «Вам — заданне» ў часопісе «Полымя». Гэта сведчыць пра тое, што ў нас чытаюць па-беларуску, што павінна ўлічваць кнігавыдавецкая галіна.

## ПРА БІБЛІЯТЭКІ І КНІГАРНІ

— Для нашых пісьменнікаў нечакана ўзнікла праблема, калі пачалася аптымізацыя бібліятэчнай сеткі. Адна з прычын, якая называлася, — скарачэнне колькасці насельніцтва ў рэгіёне, які бібліятэка абслугоўвае. Так, калі недзе скарачаецца колькасць насельніцтва, то я згодны, што трэба перагледзець расстаноўку бібліятэк, можа быць, нейкія з іх узбуйніць. Але пад маркай скарачэння некаторыя чыноўнікі абласнога і раённага маштабу закрывалі бібліятэкі, якія былі запатрабаваныя. Напрыклад, у вёсцы Прылепы Смалявіцкага раёна была вялікая бібліятэка, якая абслугоўвала двароў 300. Бібліятэка налічвала дзясяткі тысяч тамоў кніг, абслугоўвала яшчэ 10 прылеглых вёсак… Мы паставілі пытанне перад органамі дзяржаўнай улады, у тым ліку Міністэрствам культуры, каб без згоды Саюза пісьменнікаў Беларусі бібліятэкі не закрывалі.

Яшчэ адна праблема: меней за адзін працэнт беларускай літаратуры прадаецца ў нашай гандлёвай сетцы. Пераважае, на жаль, імпартнае, прыгожа афармленае, але часта гэта твор, які спрашчае светаўспрыманне чытача. А ў Магілёўскай вобласці, напрыклад, няма ніводнай кнігарні. Там кнігагандлем займаецца «Белсаюздрук», і ў прыярэтыце — замежная прадукцыя, а не кнігі беларускіх пісьменнікаў.

Мы вывучылі практыку па падтрымцы нацыянальнай культуры ў іншых краінах. На якіх умовах, напрыклад, у Францыі дэманструецца замежны фільм? З яго выдаткоўваецца частка грошай на ўмацаванне французскага кіно. Нам трэба так паставіць справу, каб з кніг, што выдадзена за мяжой, вылічваць працэнт на ўмацаванне беларускай літаратуры. Тады зможам і добрую кнігу выдаць, і сацыяльную падтрымку пісьменнікам аказаць.

## ПРА СТАТУС ПІСЬМЕННІКА

— Хацелася б звярнуць увагу на тое, што ў нас фактычна знікае паняцце «прафесійны пісьменнік». Калі мы абмяркоўвалі магчымасць атрымліваць для пісьменнікаў арэнднае жыллё, чыноўніцы з гарвыканкама і ЖКГ заявілі: «Пісьменнік — гэта не прафесія. Чаму пісьменніка мы павінны разглядаць хутчэй, чым токара ці дворніка?» Такое мысленне, быццам і не вучыліся на кнігах пісьменнікаў… Але ў нас ёсць выпадкі, калі нашы пісьменнікі працуюць і дворнікамі, і вартаўнікамі, і прыбіральшчыкамі. Пісьменнікі вымушаны ісці на гэта, каб забяспечыць сабе мінімальны пенсійны стаж. Справа ў тым, што ў мінулыя гады пісьменніцкі стаж лічыўся як працоўны. Людзі прысвячалі жыццё літаратуры, дзяржава іх падтрымлівала (у такім ці іншым варыянце гэта ёсць у іншых краінах). Але мы сутыкнуліся з небяспекай, што пісьменнікі пры выхадзе на пенсію не атрымаюць грашовага забеспячэння, як прадстаўнікі іншых прафесій. Таму што яны не могуць уносіць грошы ў пенсійны фонд штомесяц. Раней стаж вызначаўся з моманту першай публікацыі. Я лічу, што мы маглі б вылічваць стаж пісьменнікаў з моманту выдання мастацкага твора, а не проста публікацыі ў газеце. Таму што матацкі твор — гэта ўжо істотны ўнёсак у культуру.

Ганарары, якія мы атрымліваем раз у 4-5 гадоў, таксама не дазваляюць папаўняць пенсійны фонд. Трэба вырашыць гэтае пытанне з тым, каб адносіны да пісьменнікаў былі іншыя, каб пры выхадзе на пенсію яны не апынуліся ў галечы. Саюз мог бы знайсці варыянты, як падтрымаць сваіх пенсіянераў, інвалідаў, сем'і, якія страцілі блізкіх, напрыклад, за кошт прыцягнення спонсараў, але і ў гэтым мы, на жаль, абмежаваныя, тут патрэбна разуменне дзяржавы. Наогул, важнае пытанне па стварэнні псіхалагічнага клімату для творчых людзей, не толькі пісьменнікаў. Больш павінна цаніцца ў грамадстве культура ў цэлым. Пра яе высокі ўзровень сведчыць у тым ліку і наданне звання «народны», пра што мы ўнеслі прапановы.

Літаратура патрабуе справядлівасці. Трэба, каб імёны тых пісьменнікаў, што зрабілі важкі ўнёсак у развіццё літаратуры, засталіся ў памяці народа і дзяржавы. Праз назвы вуліц, усталяванне помнікаў, перавыданні нават пасля смерці. Ёсць ідэя, каб у нас з'явілася вуліца Пісьменнікаў (ёсць жа ў Брэсце вуліца Савецкіх Памежнікаў). Ёсць аўтары, якія належаць усяму народу, як Васіль Быкаў, які быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, БССР. Тэму ён узняў такую, што беларуская літаратура праз яе ўзбагаціла сусветную. Быкаў друкаваў па некалькіх маіх кнігах водгукі, прынамсі, у вялікай «Літаратурцы», і я быў шчаслівы атрымаць ад яго высокую адзнаку і з асаблівай увагай ставіўся да яго заўваг і парад…

## ПРА КРЫТЫКУ

— У маіх твораў быў шэраг знакамітых чытачоў, дзякуючы якім мне ўдалося пабудаваць сваю пісьменніцкую дзейнасць так, каб яна была цікавая людзям. Але ніводзін з іх не апусціўся да таго, каб мяне зневажаць як чалавека і як пісьменніка. Выказвалі сваё меркаванне: як гэта магло б быць, што варта ўзмацніць. Заўсёды дапамагалі мне заўвагі быць больш патрабавальным — у першую чаргу да сябе. Не пагаджуся са сваімі калегамі, якія лічаць сябе па-за крытыкай, крыўдлівыя на кожным слове. Трэба ўмець успрымаць крытыку нармальна: яна, па вялікім рахунку, дбае пра якасць літаратуры.

Таму надзённая задача для нас — стварэнне інстытута крытыкі. У нас слаба развіта нармальная крытыка, якая б не выклікала ў чалавека жадання застрэліцца, а, наадварот, каб у яго з'явілася надзея і ўпэўненасць у сабе, як зрабіць кнігу лепшай. Каб ён разумеў, што яму даюць добрую параду. Можна і пакрытыкаваць — паказаць слабыя месцы, але адзначыць і моцныя, патлумачыць пісьменніку, на што варта звярнуць увагу. Каб чалавек быў нацэлены на працу. Як выхоўваць такіх крытыкаў, дзе іх шукаць? Крытыка ў нас нібыта ёсць: у газетах і часопісах, дзе працуюць прафесіяналы. Ёсць пісьменнікі, якія прайшлі літаратурную школу. Але трэба, каб інстытут крытыкі быў пастаянны і незалежны, дапамагаў бы развівацца літаратуры.

**Запісала**
**Ларыса ЦІМОШЫК**

# Спачываючы ад болю…

## Паэтычны кодэкс Уладзіміра Жылкі

**Бурныя падзеі рэвалюцыйнай эпохі, з яе востра пастаўленымі амаль усімі анталагічнымі і духоўнымі пытаннямі быту і быцця свету, атрымалі ў паэтаў адраджэнскай і ўзвышэнскай генерацыі самую шырокую мастацка-эстэтычную праблематыку адлюстравання. Тэма перастварэння, перайначвання свету і чалавека была надзвычай актуальнай і надзённай для беларускай паэзіі першай трэці ХХ стагоддзя.**

Кожны з беларускіх паэтаў на практыцы меў больш-менш устойлівы характар сваіх ідэйна-палітычных і мастацка-эстэтычных установак і пераканання, але фундаментам іх літаратурна-паэтычнай практыкі хутчэй за ўсё выступаў феномен моцы індывідуальнай падсвядомай псіхалагічнай энергетыкі імкнення выйсці ў прастору ідэальнай бясконцасці, у Вечнасць... Сапраўдны, таленавіты паэт — гэта заўсёды згустак магутнай неўтаймаванай энергіі духу, які ў памкненні да шчырага дыялогу са светам знаходзіць магчымасць выйсці на новую ўзаемасувязь паміж прадметамі рэчаіснасці, да новага сузірання містэрыі свету. Менавіта такім апантаным творцам па сацыяльна-нацыянальных і ідэйна-мастацкіх задачах сваёй эпохі выявіў сябе паэт У. Жылка. Сімптаматычна, што першы зборнік вершаў, які выйшаў у Вільні ў 1924 годзе, У. Жылка назваў «На ростані». Менавіта такая назва яскрава ілюструе паэтычнае і эстэтычнае крэда паэта. «Ростані», «скрыжаванне», «капцы канцовыя», частыя вобразы-сімвалы яго зборнікавых вершаў, ілюструюць выразную палітру схільнасці паэта да паэтыкі пошуку пашырэння межаў будзённай рэчаіснасці, якая сваёй коснасцю, інертнасцю, звужанасцю светабачання стрымлівае парыванне чалавека і народа да развіцця і ўдасканалення.

Панаванне будзённай замаруджанасці і коснасці жыцця ўтрымліваецца на палахлівасці ўспрыняцця чалавекам новага, нязведанага. Такі стан унутранай няўпэўненасці гранічна-эмацыйна адчувальны і для мастацкага свету самага паэта, які ў вершы «На ростані» перадае трывожны настрой душы свайго лірычнага героя:

*І торба вось, і кій дарожны:*
*Пара ў пуціну мне даўно…*
*А я — нясмелы і трывожны,*
*А я — на ростані адно.*

Але паэт, наканаванай яму воляй лёсу роляй, вымушаны шмат у чым першым зрабіць крок наперад, крок у нязведанае. Ён павінен выйсці за край бачнага, звыклага, каб паспрабаваць асвяціць шлях іншым. Глыбока пачуццёва-эмацыянальна і сімвалічна ярка перадае У. Жылка такую рэалізацыю творцы ў вершы «Напярэдадні» (1923).

*Ў амшарах, балотах, лагчыне*
*Бяляўы, празрысты туман;*
*А неба — глыбока і сіне,*
*А неба — бязмежны дыван.*

*І лес у чаканні бязмоўным*
*Зялёнай жывою сцяной*
*Стаіць, маліцвенасці поўны,*
*Ўрачыста, як на мшы святой.*

*Зацвіркала першая птушка,*
*І ветрык павеяў свяжэй.*
*Ружова-ядвабная стужка*
*Палае ярчэй і ярчэй.*

Чалавек-творца, чалавек-наватар, чалавек ідэі тут паўстае ў вобразе «першай птушкі», якая будзіць наваколле пасля сну. Сімвалы вясны, жыцця, смерці, ветру, туману, ночы, балота, лілеі, мары паўстаюць у лірыцы У. Жылкі быццам бы канкрэтнымі, добра даступнымі нашаму нацыянальна-ментальнаму ўяўленню вобразамі, але гэтыя сімвалы пад энергетычным уздзеяннем паэтыкі пачынаюць азначаць штосьці ўжо само па сабе нашаму досведу і ўяўленню недасяжнае. Так працуе мастацкі сімвалічна-метафарычны спосаб рэпрэзентацыі-паказу недасягальнага, містычнага праз канкрэтна-ўяўнае, бачнае і адчувальнае.

Сімвал заўсёды дыялектычны і дыялагічны знак-метафара. Логіка яго існавання — логіка супярэчнасці, і існуе сімвал як канкрэтны арганічны сінтэз зменлівага і ўстойлівага, формы і зместу, руху і спакою, канечнага і бясконцага, абмежаванага і бяскрайняга. Паэзія заўсёды ўзнікае на аснове сімвалічнага, знакавага перастваральнага характару, своеасаблівага спосабу пашырэння свету.

У ёй прадметам, рэчам, з'явам свету даецца магчымасць «гаварыць» з чалавекам, «валодаць мовай». У такой духоўна-мастацкай атмасферы чалавек пачынае дыхаць з прыродай адным жыццём, ён атрымлівае магчымасць любіць, адчуваць, разумець, гаварыць з прыродным светам — адухаўляць яго, пашыраць межы і паглыбляць нашы веды. Вось як выразна, духоўна-светасузіральна падае нам гэту містэрыю ўзаемаадносін паэта і прыроды У. Жылка ў вершы «Я люблю густыя шумы» (1923).

*Я люблю густыя шумы,*
*Перагуд высокіх хвой.*
*Ў цень і ціш лясной задумы*
*Я люблю прыйсці вясной.*

*Спачываючы ад болю,*
*Ад няпраўды і маны,*
*Пазнаваць чужую волю,*
*Дыхаць пахам сасніны.*

*І, спусціўшыся лагчынай*
*У зарослы дол сыры,*
*Між бяроз, густой ляшчынай*
*Заблудзіцца ў гушчары.*

*Дзе таёмна, сцішна, змрочна,*
*Дзе вільготны мяккі мох,*
*Дзе ўзіраецца ставочна*
*Збуджаны Перапалох.*

Менавіта «ставочным Перапалохам» павінен быць паэт, каб уразіць, здзівіць, пераканаць вузкі абывацельскі, мяшчанскі свет звычайнага чалавека. Праз творчы пачатак у чалавеку і асабліва праз высокі крэатыўна-духоўны запал паэтаў прырода заўжды актыўна рэалізуе сваю асноўную духоўную місію — эвалюцыю. Як вядома, магчымае, імавернае ці неабходнае выступаюць заканамернымі сувязямі, па лекалах якіх развіваецца жыццё, сучаснае пераходзіць у будучае.

Таленавіты мастак слова таксама выхоплівае сваёй інтуіцыяй магчымасці тых ці іншых характараў, пазіцый ці сітуацый, якія затым рэалізуюцца ў самой рэчаіснасці. Гэта так званая прарочая місія паэта. Яна ўтрымлівае неабавязковую задачу-праграму поўнай і неад'емнай рэалізацыі, адбыцця. Але будучыня не аўтаматычна выцякае з сучаснага, па логіцы рэалізацыі толькі адзінай магчымай заканамернасці.



Уладзімір Жылка.

Заканамернасць не проста аўтаматычна-наканавана перапліваецца, пераходзіць у рэчаіснасць, бо існуе заўсёды не адна, а па меншай меры дзве ці болей альтэрнатыўныя магчымасці, якія прабіваюць сабе дарогу ў барацьбе розных тэндэнцый гістарычнага працэсу чалавечых інтарэсаў і жарсцяў. Сапраўдны паэт-патрыёт не можа не ўключыцца ў гэту барацьбу за новую заканамернасць, новую будучыню, ствараючы вобразы як жаданага, так і не жаданага заўтра.

*Не плач, не плач па сыну маці,*
*Сягоння сорам быць у хаце,*
*Бо ўзнят за волю грозны меч,*
*Бо хутка будзе злая сеч,*
*Няхай і ён юнак адважны,*
*Ідзе туды, дзе б'ецца кажны*
*За волю новую без слёз,*
*За лепшы Бацькаўшчыны лёс.*

У. Жылка, як адданы сын свайго народа, сваёй зямлі, Бацькаўшчыны, актыўна быў уключаны як у бурлівае сацыяльна-палітычнае жыццё Беларусі, так і ў творча-мастацкае перастварэнне рэвалюцыйнай рэчаіснасці па блізкіх маральна-духоўных ідэалах. Гэта давала яму магчымасць не толькі прыкмячаць і прадбачыць, што чакае нас у будучым, але і па-сапраўднаму гераічна змагацца за лепшыя наступствы гэтага будучага.

У вершы «Покліч» (1920 год) малады яшчэ паэт адкрыта прамаўляе кодэкс сапраўднага патрыёта Айчыны.

**Ігар ШАЛАДОНАЎ**

# Свет пачынаўся з Полацка




Дакументы эпохі Сярэднявечча — цікавая крыніца для чытача. Судовыя скаргі дазваляюць даведацца пра канкурэнцыю полацкіх і рыжскіх купцоў, іх сваркі, бойкі, затрыманні за продаж «хвальшывых» тканін і селядцоў…

Фундаментальны зборнік «Полацкія граматы XIII — пачатку XVI стст.» складзены беларускімі і расійскімі гісторыкамі. Граматы ў назве зборніка трэба разумець шырока: гэта пісьмовыя дакументы, звязаныя з Полацкай зямлёй, за выключэннем графіці (запісы на сценах і прадметах) і апавядальных крыніц (летапісы). У зборнік увайшлі дакументы пра падараванне і продаж зямлі на Полаччыне, гандлёвыя дамовы, правы і прывілеі, нададзеныя палачанам.

Як зазначыў адзін з укладальнікаў кандыдат гістарычных навук Васіль Варонін, следам за «Полацкімі граматамі» можна чакаць «Пінскія граматы», «Мсціслаўскія граматы» і іншыя зборнікі дакументаў па гісторыі рэгіёнаў нашай краіны ў серыі «Сярэднявечныя акты Беларусі».

У працэсе падрыхтоўкі «Полацкіх грамат» укладальнікі правялі грунтоўную працу ў шматлікіх замежных архівах, дзе выявілі дакументы на лацінскай, нямецкай, польскай мовах, звязаныя з Беларуссю. Натхняльнікам выдання выступіла матрыярх расійскай гістарычнай навукі Ганна Харашкевіч. У 1970 — 80-я гады яна ўжо выпусціла шэсць тамоў выдання «Полацкія граматы XIII — пачатку XVI стст.». Аднак у прадмове да новага зборніка Ганна Леанідаўна ганіць узровень і якасць тагачаснай сваёй публікацыі. Але ж яе маладзейшыя расійскія і беларускія суаўтары настойваюць: без тагачаснай не было б сённяшняй публікацыі.

Кніга выйшла ў расійскім выдавецтве «Университет Дмитрия Пожарского», таму каментарыі і даведачны матэрыял прадстаўлены на рускай мове. Разам з Ганнай Харашкевіч над выданнем працавалі кандыдат навук Сяргей Палехаў, а таксама Кацярына Сквайрс і Андрэй Цюльпін — з расійскага боку, з беларускага — кандыдаты гістарычных навук Васіль Варонін, загадчык аддзела гісторыі Беларусі Сярэдніх вякоў і Новага часу Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, і Аляксандр Груша, дырэктар Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі.

Інфармацыя ў двух тамах «Полацкіх грамат» прадстаўлена ў наступным парадку. Першы том — неабходныя ўводзіны, унушальных памераў бібліяграфічны спіс, далей — тэксты ўсіх вядомых пісьмовых дакументаў 1263 — 1511 гадоў, датычныя Полаччыны. Такіх дакументаў сабралася 482. Хоць, канечне, у зборнік увайшлі не ўсе: так, яшчэ два рукапісы пачатку XVI стагоддзя аўтары знайшлі ў Вільні, калі зборнік ужо быў здадзены ў друк. Таксама не даследаванымі засталіся шведскія архівы, дзе можна знайсці полацкія дакументы, вывезеныя ў час Паўночнай вайны. У параўнанні з ранейшым выданнем Г. Харашкевіч, новых дакументаў удалося знайсці толькі 12. Але для сярэднявечча — гэта не «толькі», а «ажно»!

Раней вядомыя тэксты былі адрэдагаваныя, надрукаваныя згодна з сучаснымі патрабаваннямі і дапоўненыя падрабязнымі каментарыямі. Якраз каментарый да кожнай граматы, а таксама новая рэдакцыя даследавання Ганны Харашкевіч «Полацкія граматы як гістарычная крыніца» ўтрымліваюцца ў другім томе. Том змяшчае таксама ілюстрацыі (фота грамат, пячаткі, вадзяныя знакі). З цікавостак выдання — схема складання дакумента ў канверт: нарэшце, адзначае Аляксандр Груша, рэдактарам удалося рэканструяваць, як граматы складаліся, зашываліся і запячатваліся. Раней гэта было невядома. Хоць і цяпер паміж аўтарамі няма кансенсусу па гэтым пытанні.

На прэзентацыі аўтары двухтомніка падкрэслілі: дакументы сведчаць пра высокі ўзровень пачуцця ўласнай годнасці тагачасных палачан. Яны так любілі свой край, што, нават калі страчвалі падчас вайны сваю сялібу і маглі пасяліцца дзе заўгодна, прасілі вялікага князя вылучыць ім новы надзел усё там жа — на роднай Полаччыне.

Наклад выдання невялікі — 600 асобнікаў кожнага тома. Шыкоўнае выданне каштуе не вельмі дорага: 72 і 55 рублёў за першы і другі тамы адпаведна. У Беларусі кнігу можна замовіць на сайце http://kniger.by/.

**Паліна СКУРКО**

# НАСТАЛЬГІЧНЫ ПЕРЫФРАЗ




**Выдатна.** Беларуская вёска даўно не тэма для настальгічных захапленняў аўтэнтычнасцю беларушчыны. Той шматкроць апісанай нашымі класікамі вёскі ўжо даўно няма. Гэта своеасаблівая беларская атлантыда, страчаны назаўжды свет. Найперш таму цікавымі і змястоўнымі падаюцца выцягнутыя з «цянётаў памяці» жыццёвыя былі Міколы Чарняўскага пад агульнай назвай «Як пад бацькавай грушкай пастаяў». Гэта амаль успаміны, у якіх апісваецца перажытае альбо пачутае. Амаль — таму што набліжанасць да мастацкага тэксту ў іх максімальная. Магчыма, насуперак аўтарскай задуме — крочыць выключна сцежкамі памяці — своеасаблівая мастацкая логіка ўмяшалася ў тэкст і прымусіла не толькі занатоўваць, але і ствараць. Героі «быляў» Хведар і Варачка, Паляк і Камуніст лёгка бачацца героямі так званай вясковай прозы 1960-х гадоў. Добра, што настальгічная плынь уласных мінорных настрояў не пераважыла, дзякуючы гэтаму твор не пераўтвараецца ў абагульнена-абстрактнае перажыванне праміналай маладосці, а займеў тую вобразную канкрэтыку, якая і надала завершанае мастацкае аблічча.

У выніку М. Чарняўскі не толькі сам нібы «ў бацькавым садзе пад грушкаю пастаяў» і адчуў сябе «часцінкаю зусім не райскага, але такога зямнога спакою», але і дазволіў пабываць пад гэтым дрэвам усім чытачам!

**Сумніўна.** Пагадзіцеся, наўрад ці падрабязнае штодзённае натаванне асабістых перажыванняў можа стаць вялікай мастацкай каштоўнасцю! Вядома, кожны чалавечы досвед унікальны. Аднак зусім не кожная думка вартая таго, каб пераўтварыць яе ў друкаваны твор. Менавіта таму «Уліпкі» Уладзіміра Ліпскага адрасуюцца хутчэй найбліжэйшаму колу сяброў і сваякоў, чым шырокай чытацкай аўдыторыі.

**На суд чытача** вынес Анатоль Бутэвіч пачатак сваёй аповесці «Распасажаны дом, альбо Хутаранская вольніца». Твор прысвечаны бацькам — і такім чынам пераўтвараецца ў сямейную хроніку, ды і аўтабіяграфічнасць відавочная з першых радкоў (сына аднкой з галоўных герaінь, Мар'і, клічуць Толікам). Драматычная гісторыя перасялення хутаран у наваўтвораныя калгасы ў пасляваенныя гады для А. Бутэвіча не проста мастацкая тэма, а лёс сям'і. «Распасажаны дом…», можна сказаць, — своеасаблівы перыфраз знакамітага «Раскіданага гнязда» Янкі Купалы. Цяжка аспрэчваць важнасць асвятлення гэтай тэмы. Іншая справа, што расцягнутыя апісанні, адступленні, змяшанне светапогляду апавядальніка (сталага чалавека) з жыццёвымі ўяўленнямі сына галоўных герояў — маленькага Толіка — не робяць гэты твор лепшым.

***

**Выдатна.** Апавяданне Станіслава Падліпскага «Інтэрв'ю з хірамантам» — прыклад лёгкай, іранічнай прозы, якую варта чытаць для добрага настрою, каб з усмешкай узгадаць шэфаў і калег, напружаныя працоўныя будні. Адзіная сур'ёзная праблема, якая згадваецца ў творы, — гэта праблема «бацькоў і дзяцей», асабліва істотная ў час выбару прафесіі. Але (глядзім на ўсё працей) расці — гэта значыць пераадольваць перашкоды, да таго ж містар Выпадак у адзін цудоўны дзень можа змяніць жыццё амаль без намаганняў з вашага боку. Так і адбываецца з маладой журналісткай Кацяй, якая працуе ў жаночым інтэрнэт-часопісе і падчас інтэрв'ю адзначае, што таямнічы хірамант можа аказацца вельмі прывабным мужчынам...




**Сумніўна.** Рэцэнзію Цімафея Ліякумовіча «Надта шмат гаркоты ў сэрцы і ў свеце» можна лічыць прыемным кампліментам у адрас пісьменніцы Алены Брава, якая выдатна прадумвае сюжэты сваіх твораў. Сапраўды, у аповесці «Даравання» няма збыткоўнасцей, кожнае здарэнне, кожны штрых у абмалёўцы персанажа працуюць на агульную канцэпцыю твора. Таму шаноўны літаратуразнаўца прысвячае палову артыкула падрабязнаму ўзнаўленню сюжэта, але выказвае упэўненасць, што «Даравання» ўсё адно застанецца цікавым для чытачоў і будзе трымаць у эмацыянальным напружанні.

**На суд чытача:** нарысы, прысвечаныя найноўшай літаратуры, падрыхтаваныя і выдадзеныя ў Казахстане. Аўтары навукова-папулярных дайджэстаў распавядаюць пра вядомых пісьменнікаў розных краін і іх найлепшыя творы, пра агульную літаратурную сітуацыю і міжнароднае супрацоўніцтва ў сферы культуры. Калі вы хочаце аператыўна даведацца, што адбылося ў іранскай, шатландскай, фінскай літаратуры цягам апошніх дзесяцігоддзяў, то публікацыя, падрыхтаваная Святланай Ананьевай і Алесем Карлюкевічам, будзе карыснай.

***

**Выдатна:** рубрыка «Пераклады». Англійскі пісьменнік Рычард Олдынгтан звяртаецца да праблемы неадкупнай віны перад ахвярамі вайны: мёртвыя атручваюць памяць жывых, хаця, паводле аповесці «Смерць героя», большасць людзей надта хутка забываюцца пра памерлых. Калі вайна ідзе за дзве тысячы кіламетраў ад утульнага мястэчка і амаль не парушае звыклы лад жыцця, вестка пра смерць блізкага чалавека можа не выклікаць глыбокага смутку, сцвярджае аўтар, распавядаючы пра сям'ю сябра, які загінуў падчас Першай сусветнай вайны.

Аповесць аўстрыйскай дзіцячай пісьменніцы Крысцінэ Нёстлінгер «Карл з тэлевізара» адрасавана хутчэй даросламу чытачу. Антон — хлопчык гадоў дзесяці, пазбаўлены ўвагі бацькоў, заклапочаных высвятленнем міжасабовых зносін. Сітуацыя «напярэдадні разводу» для героя занадта складаная: ён «уцякае» да дзіўнага сябра з тэлебачання, бо не мае пра што шкадаваць у гэтым жыцці.

**Сумніўна.** Апавяданне Таццяны Кіявіцкай «Прыйду абавязкова» не саступае па ўзроўні іншым публікацыям новага (надзвычай цікавага!) нумара «Маладосці». Але гэта дакладна той выпадак, калі рабіць заўвагі ўжо не рана і яшчэ не позна. Галоўная ідэя твора — дапамажы чалавеку, які мае ў гэтым патрэбу, і лёс (Бог?) будзе спагадлівы да цябе — сцвярджаецца вельмі акуратна, ды ілюструецца некалькімі прыкладамі. Аднак апавяданне мае надта прадказальны фінал. Тут зашмат падзей, якія ў псіхалагічным плане не змяняюць галоўных герояў, а вобразы шматлікіх другасных персанажаў падаюцца недастаткова акрэсленымі. Калі аўтарка звернецца да ўніверсальных правіл, па якіх пішацца проза, яе творы будуць чытацца «на выдатна»!




**На суд чытача:** эсэ Андрэя Захарэўскага «Хвалі вады і языкі полымя». Аўтар смела, але не вельмі паслядоўна разважае пра вызначальныя тэндэнцыі ў беларускай літаратуры: знаходзіць мадэрн у постмадэрне, абгрунтоўвае новае найменне «для пазнакі ўсёй літаратурнай плыні свету», абвяшчае востраў Разанаўе цэнтральным у архіпелагу сучаснай беларускай паэзіі. У творы шмат слушных думак, шмат ідэй, вартых далейшай распрацоўкі. Маштаб праблем, да якіх звяртаецца Андрэй Захарэўскі, выклікае безумоўную павагу.

**Жанна КАПУСТА,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Надрукавана ў «Маладосці»*

# Паміж казкай і гісторыяй

**Рэдакцыя часопіса «Маладосць» прапануе адпачыць ад пахмурнай восені за старонкамі добрага фэнтэзі. Аповесці «Меч Маладзіковага промня» Лаўрэна Юрагі (№ 9) і «Вершнік на дарозе» Маргарыты Латышкевіч (№ 10) — гэта свет мужных вояў, таямнічых замкаў і вялікага кахання. Абодва творы можна адшукаць на сайце часопіса!**

Беларускае фэнтэзі — не вельмі папулярны жанр у беларускай літаратуры. Асобныя творы такога кірунку знойдуцца ў многіх аўтараў, ці хоць бы фэнтэзійныя элементы: згадаць гісторыю пра Пранціша Вырвіча Людмілы Рублеўскай, «дарослыя» творы Валерыя Гапеева, адно з лепшых апавяданняў Алеся Кажадуба, дзе вясельны картэж быў «перахоплены» зграяй ваўкалакаў... Так, падобныя казачныя матывы, узгадваныя на нашай міфалогіі, сапраўды не рэдкасць. Але калі казаць менавіта пра фэнтэзі, з захаваннем усіх канонаў, — колькі такіх твораў згадаецца?

Твор Лаўрэна Юрагі прадстаўлены ў часопісе як эксперымент. Падстава меркаваць пра нешта нязвыклае — у асаблівасцях мовы аўтара. Пра іх чытач папярэджаны загадзя.

«…Нераспрацаваныя ў беларускай савецкай літаратуры жанры патрабавалі ўласных моўных кодаў — іначай кажучы, адпаведнай лексікі і стылістыкі. І калі я паспрабаваў напісаць твор у жанры фэнтэзі, то сутыкнуўся з гэтай праблемай. Мне было патрэбна, каб мой аповед меў посмак архаічнасці ці, быць можа, нейкай "казачнасці", таму давялося абкласціся літаратурай і пачаць вывучаць беларускую мову наноў, больш глыбока. У выніку я адабраў тры слоўнікі, якія здаліся мне найбольш прыдатнымі для літаратурнай працы: акадэмічны слоўнік 1953 года пад рэдакцыяй Якуба Коласа, "эмігранцкі" слоўнік Станкевіча і, нарэшце, слоўнік Ластоўскага».

Такая прадмова настройвае на сур'ёзнае чытанне. Але ўсё аказалася не так «страшна». Так, Лаўрэн Юрага напраўду дасягнуў пастаўленай мэты: аповесць гучыць якраз «архаічна», то бок, не як твор, напісаны сучасным аўтарам, але як натуральны расповед ад імя першай асобы, расповед галоўнага героя, які жыў, умоўна кажучы, даўным-даўно. Дасягаецца гэта збольшага дзякуючы тым самым «лексічным пошукам»: у аповесці гучаць *«з першагляду»* замест *«з першага погляду»*, *«вадар»* як той, хто вядзе, *«правіца»* — правая рука, *«вешчбіт»* ды *«кудзебнік»* — чараўнік, як няцяжка здагадацца. Упрыгожваюць аповесць *таямніца-«тайніца»*, *прытойлівасць*, *вохнасці* (духмяныя рэчывы), *мосяжныя* (гэта значыць медныя) дзверы, а галоўны герой сутыкаецца ў рызыкоўных былях не з працінікамі ці ворагамі, але з *супарамі*. І, вядома, галоўнае дасягненне Лаўрэна Юрагі не столькі ў саміх знаходках, колькі ў арганічнасці іх ужывання. Як пісаў Толкін, няцяжка прыдумаць свет, дзе сонца было б зялёнае, — цяжка зрабіць гэты свет натуральным. Моўны свет Лаўрэна Юрагі абсалютна натуральны.

Канкрэтныя часавыя межы ў аповесці не ўказваюцца, зрэшты, яны і непатрэбныя. Як і канкрэтызацыя датычна топаса. Ёсць рыцары, замак, зброя мужных старадаўніх ваяроў, таксама — чараўнікі і дзівосныя жывёлы. Усё гэта стварае патрэбную (і класічную) атмасферу Сярэднявечча. Замкі, рыцарства і кнехты ўскосна ўказваюць на Еўропу, імёны герояў — Лада, Мудраслаў, Войшаль — на яе ўсходнюю частку. Словам, месцам дзеяння можна лічыць старажытную-старажытную Беларусь (ці Літву, каму як даспадобы). Што цікава, вобразы адмоўных герояў — Чорнага Князя, яго ваяроў, магаў — і іх чужаземныя імёны намякаюць на крыжакоў. Дый скарбы галоўнага злыдня ахоўвае грыфон — істота з заходнееўрапейскай міфалагічнай традыцыі.

Яшчэ адна адметнасць датычыць структуры сюжэта. Завязка і фінал — самыя сэнсоўныя часткі аповесці — займаюць фармальна вельмі мала месца і часу. Львіная доля твора прыпадае на пошук таго самага Мяча, прычым дзея не выходзіць за межы замка. Што не змяншае, аднак, дынамічнасці твора: герой у пастаянным руху, а сюжэтныя павароты залежаць ад паваротаў лiтаральных: збочыш у лабірынце калідораў туды, і развітаешся не толькі з марай выратаваць свой народ, але і з жыццём. Узброеныя сутычкі тут немінучыя, але іх нават зашмат: па баі на старонку, а то і больш. Зрэшты, апісанне іх натуралістычнае, і аматары баёў будуць задаволеныя.

«Меч Маладзіковага Промня» спалучае казачныя элементы і рысы гістарычнай аповесці. Апошняга нават больш. Гэты кірунак — фэнтэзійная іншасказальнасць з намёкамі на нашыя гістарычныя рэаліі, а таксама — сур'ёзная, скрупулёзная праца з моўнымі сродкамі — бачыцца перспектыўнай і сёння.

Аповесць Маргарыты Латышкевіч — гісторыя пра князёўну-лебедзь, якая стала жонкай вабнага хлопца Івана Падвея, але вярнулася ў валадарства бацькі-чараўніка. Аповед Кашча-Косткасея — аднаго з вартаўнікоў таемнай Пушчы — прыкметна адрозніваецца ад казкі, складзенай людзьмі. Галоўныя героі — князь Сотвар і яго ўнук, чалавечы сын Ясь, якіх трапляе ў Пушчу і здзіўляе ее жыхароў дзівосным граннем на лютні.

Чароўны свет аповесці — тонкая работа ўважлівага да дэталяў майстра, які ставіцца да справы з вялікай любоўю. Твор чытаецца лёгка, бо Кашч як іранічны апавядальнік не схільны засяроджвацца на душэўных перажываннях. Затое ў патрэбны момант герой аказваецца сумленным і смелым. Так, вартаўнік і вой — гэта зброя ў руках князя, але калі праўда не на баку ўладара, кожны вольны на ўласны выбар...

**Андрэй ЖБАН,**
**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# ШТРЫХІ ДА ВАЕННАЙ ЭПАПЕІ

**Чым далей ад нас Вялікая Айчынная вайна, тым больш відавочнае яе грандыёзнае значэнне: веліч і гераізм нашага народа. Ваенныя дзеянні прыцягваюць, прымушаюць брацца за пяро тых, хто ведае пра вайну з кніжак ці з аповедаў родных і блізкіх. З такіх — і празаік-дакументаліст Валерый Алешка.**

Магчыма, гэтаму ў нейкай ступені паспрыяла тая акалічнасць, што дзяцінства яго прайшло «ў шумным святле парашутнай ракеты», а бацька служыў ваенным урачом у авіяцыйным злучэнні, у якое ўваходзіў славуты авіяполк французскіх лётчыкаў «Нармандыя — Неман». Пасля вайны з-пад яго пяра выйшлі кнігі, прысвечаныя як савецкім авіятарам, так і французскім пабрацімам. Бацькавай дарогай пайшоў і сын. І першае, што ён зрабіў, — напісаў дакументальную кнігу «Пазнаючы бацьку».

І вось перад намі новая дакументальная аповесць В. Алешкі «Крылы». Па сутнасці, аўтар працягвае аповед пра тых самых ваенных лётчыкаў, што і ў першай аповесці. Але ў «Крылах» фактычны матэрыял выбудоўвае паўнавартасны сюжэт. Праўда, ён нескладаны і, можна сказаць, ляжыць на паверхні. Каб твор атрымаўся цэльным і кампактным, аўтар пачынае яго з раздзела, у якім дае «адлуп» гісторыкам, што спрабуюць перапісаць гісторыю вайны, зменшыць наш уклад у Перамогу. А ўслед за гэтым ён спрабуе ўзнавіць гераізм і подзвігі нашага славутага лётчыка-земляка, двойчы Героя Савецкага Саюза Паўла Галавачова і авіятараў-пабрацімаў, з якімі яму давялося вылятаць і весці паветраныя баі з ворагам. Ён і з'яўляецца той асобай, тым стрыжнем, вакол якога цэментуюцца ўсе падзеі дакументальнага твора. Дзякуючы гэтаму чытачы даведваюцца, як змагаліся французскія лётчыкі з авіяпалка «Нармандыя-Неман», пра іх франтавую дружбу з нашымі крылатымі асамі. Паветраныя баі, няўдачы ў першыя дні вайны і паступовае заваяванне неба, дзе верх быў за нашай авіяцыяй, самаахвярнасць лётчыкаў даюць нам уяўленне, якой цаной здабытая Перамога і які важкі ўклад унеслі мы ў разгром фашысцкай Германіі.

У пачатку дакументальнай аповесці, гаворачы пра П. Галавачова, аўтар падкрэслівае, што славуты лётчык паходзіў з сялянскай сям'і. І ведома, як гэта бывае ў падобных творах, бацька вылучаўся сярод аднавяскоўцаў: умеў чытаць і пісаў ад іх імя заявы, даваў слушныя парады. І калі аднойчы спытаў сына, кім ён хоча стаць, той без вагання адказаў: «Лётчыкам!» Чаму? У гэты час над вёскай пралятаў самалёт. У падобным даходліва-спрошчаным варыянце ўзнаўляюцца біяграфічныя старонкі вучобы героя ў авіяклубе і яго далейшы жыццёвы і службовы шлях. Яно і зразумела. В. Алешку цікавіла біяграфія Галавачова, а не ўнутраны духоўны свет і стан, маральныя якасці, псіхалогія паводзін і дзеянняў.

Пахвальна, што празаік час ад часу звяртаецца да гістарычна-дакументальных фактаў, з якіх мы даведваемся, як развівалася авіяцыя, што рабілі дзеля гэтага крамлёўскія кіраўнікі і як яны сябе паводзілі. Напрыклад, бацька ўсіх народаў быў незадаволены эпізодам, калі адзін лётчык, узляцеўшы ў неба і шукаючы самалёт, які прапаў, сутыкнуўся з другім і пацярпеў аварыю.

Уражвае і здзіўляе факт, што ў трыццатыя нашы самалёты маглі прабыць у паветры ўсяго толькі трыццаць пяць хвілін, а нямецкія і англійскія — па некалькі гадзін. Для арганізацыі сувязі авіяцыі з наземнымі войскамі галаўком Рычагоў прапанаваў пазначаць размяшчэнне пяхоты, танкаў, конніцы палотнішчамі, каляровымі дамамі. Пра што гэта гаворыць? Ды пра адно — як далёка была наша авіяцыя ад той, якой яна стала падчас вайны. Прыводзіць В. Алешка і выказванне М. Громава: «Арышты адбываліся таму, што авіяканструктары пісалі даносы адзін на аднаго». Гэта таксама не магло не адбіцца на тэхнічным узроўні нашых самалётаў, іх баявых якасцях і боегатоўнасці.

Робячы такія «дакументальныя ўкрапленні», аўтар дапамагае зразумець, чаму большасць нашых самалётаў была знішчана на зямлі ў першы дзень нападзення гітлераўскай Германіі. Чаму наш народ панёс такія агромністыя страты. І якіх гераічных намаганняў, подзвігаў і высілкаў каштавала нашаму народу на франтах і ў тыле, каб выйсці з катастрафічнага становішча.

Што тычыцца галоўнага героя кнігі П. Галавачова, то ўжо ў першым паветраным баі ён паводзіць сябе бясстрашна і ледзь не збівае варожы «Юнкерс». Але той уцякае. Гэты баявы эпізод пададзены схематычна і спрошчана, менавіта так, як хочацца бачыць аўтару кнігі. Думаецца, на самай справе ўсё было іначай. Мала верыцца ў тое, што адзін з фашысцкіх асаў, за плячамі якіх была захопленая Еўропа і багатая практыка вядзення паветраных баёў, мог даць драла. Але будучы Герой, які заслужыць дзве Залатыя Зоркі, павінен быў паводзіць сябе па-геройску.

Відаць, падобныя «прыдуманыя» дэталі для дакументальнай аповесці не такія ўжо істотныя. Твор разлічаны на сярэдняга чытача, якога ў першую чаргу цікавяць баі лётчыкаў, гераічныя ўчынкі і тое, як яны ваяліся і адбываліся ў паветры. А рэплікі, размовы, спрэчкі, іх псіхалагічнае абгрунтаванне, што мае немалаважнае значэнне ў мастацкім творы, у такой дакументальнай рэчы, як «Крылы», неабавязковыя і служаць пэўнымі «звязкамі» паміж асобнымі дзеяннямі і эпізадычнымі здарэннямі. Тым больш што кніга «населеная» вялікай колькасцю людзей, якія прадстаўляюць і простых удзельнікаў вайны, і тымі, ад аднаго слова якіх залежыў лёс не толькі ваенных аперацый і бітваў, але і цэлых народаў і краін у той час і ў будучыні.

Па-добраму здзіўляе багацце фактычнага і дакументальнага матэрыялу, якім валодае празаік. Думаецца, што гэта не толькі плён яго працы ў архівах, але і пачэрпнутае з іншых крыніц, напрыклад, вычытанае з ваенных мемуараў, успамінаў як нашых, так і замежных былых генералаў і штабістаў, якія ведалі пра вайну не па чутках, а самі былі яе непасрэднымі ўдзельнікамі, распрацоўвалі тактыку і стратэгію ваенных дзеянняў. Як дасведчаны дакументаліст, што ведае, як зрабіць кнігу больш займальнай і запамінальнай, ён, згадваючы якога-небудзь буйнога ваеннага дзеяча, коратка падае яго біяграфію і бітвы, у якіх удзельнічаў. Гэта пашырае панараму ўзноўленай вайны, а галоўнае — прадстаўляе тых, хто змагаўся з ворагам і гатовы быў прынесці на алтар Перамогі ўласнае жыццё.




У кнізе нямала эпізодаў з жыцця і баявых палётаў нашых лепшых асаў, якія стаяць як бы асабняком і аўтаномна, але без якіх карціна змагання была б звужанай і непаўнацэннай. Цеплынёй і любоўю працятыя старонкі кнігі пра лётчыкаў авіяпалка «Нармандыя — Неман». Гэтаму, відаць, паспрыяла тое, што з імі добра ведаўся і ўмеў цікава і з захапленнем расказваць пра іх баявыя вылеты і жыццё паміж баямі бацька празаіка-дакументаліста.

Не абышоў увагай В. Алешка і варожых лётчыкаў. Ён згадвае, напрыклад, знакамітага аса Хартмана, на ліку якога 450 збітых самалётаў. Для чаго гэта зроблена? Відаць, каб чытачы зразумелі і адчулі, з якімі ворагамі давялося весці паветраныя паядынкі нашым, як іх тады называлі, сокалам.

Падсумоўваючы сказанае, хочацца звярнуць увагу, што кніга «Крылы» няблага аформленая, на яе старонках змешчана некалькі дакументальных фатаграфій, зробленых як падчас вайны, так і ў мірныя дні.

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

# Больш ніхто не можа расказаць

**У студзеньскім нумары «Нёмана» быў надрукаваны часопісны варыянт аповесці Уладзіміра Арлова «Ён смяяўся апошнім». Праз колькі месяцаў пабачыла свет і кніга, якая мела арыгінальны падзагаловак: «Фантазія на тэму дакументаў». Тое, што знакаміты рэжысёр тэатра ды кіно і сцэнарыст вырашыў прысвяціць асобе Кандрата Крапівы кнігу, здзіўлення не выклікае. Па-першае, творчасць беларускага пісьменніка непасрэдна звязана з тэатральнай сцэнай. Па-другое, абраная У. Арловым форма шмат у чым нагадвае сцэнарый фільма.**

У гісторыкаў-архівістаў падзагаловак «*Фантазія на тэму дакументаў*» выкліча скептычную ўсмешку: якая ж тут можа быць фантазія — толькі канкрэтыка! Аднак аўтар дакладна патлумачыў адметнасць аповесці, якая і не дакументальная, і не мастацкая, а недзе паміж — паміж дакументам, які адлюстроўвае факты, і фантазіяй аўтара, праз найбагацейшы жыццёвы досвед якога прапушчана вялікая колькасць «фрагментаў» чужых успамінаў і чужых біяграфій. Верагодна, гэтыя фрагменты назапашваліся дзесяцігоддзямі і ўрэшце склаліся ў асобную карціну — са сваім сюжэтам і героямі.




Зрэшты, казаць, што аповесць распавядае толькі пра Кандрата Крапіву, няслушна. Паколькі аб'яднальным цэнтрам твора стала правядзенне ў Маскве Дэкады нацыянальнага мастацтва БССР у 1940 годзе, то ў кантэкст уводзяцца і іншыя знакамітыя асобы: Эдзі Рознер, Ларыса Александроўская, Фаня Алер, Давід Рубінчык, Андрэй Усачоў, Леанід Рахленка… Згадваюцца Якуб Колас, Янка Купала, Андрэй Мрый, Васіль Шашалевіч, «Узвышша». Ну і, вядома, Сталін, Панамарэнка, Цанава.

Аўтар спрабуе аднавіць атмасферу страху і прыгнечанасці, якая панавала ў 1930-х гадах, аповесць насычана згадкамі пра арышты, высылкі і расстрэлы, а пастаянным спадарожнікам («куратарам») Крапівы падчас маскоўскай камандзіроўкі з'яўляецца чэкіст-лейтэнант Ружэвіч. Абраная У. Арловым тэма — падрыхтоўка і правядзенне дэкады — дазваляе апісаць не толькі вялікае кола гістарычных асобаў, але і закрануць усе найбольш важныя пытанні грамадска-палітычнага і культурнага жыцця таго часу. У гэтым вялікая каштоўнасць аповесці: чытач атрымлівае не проста асобныя звесткі пра пісьменнікаў, рэжысёраў, акцёраў, спевакоў, але і дастаткова дакладнае ўяўленне пра той складаны і трагічны перыяд у цэлым.

Стварыць «фантазію на тэму стасункаў» паміж былым узвышаўцам Кандратам Крапівой і чэкістам Ружэвічам — справа рызыкоўная. Ці не адразу прыгадваецца верш Уладзіміра Дубоўкі:

*Жывеш і сохнеш — мільянер!*
*Адхватчык прэміяў і лаўраў <…>*
*А шмат каго папрыбіраў,*
*Каб на шляху не заміналі,*
*І выйшаў суха з мокрых спраў*
*Ды выстукаў яшчэ медалі <…>*
*Іх без віны і без пары*
*Бяда змяла ў апошні вырай.*
*Ці не дарма твае сябры*
*Былі з табой занадта шчыра?..*

У. Арлоў апісвае перажыванні свайго героя аб страчаных сябрах-узвышаўцах, аднак без паглыблення ў гэтую няпростую тэму, мімаходзь. Дарэчы, у творы, нягледзячы на такую «нясветлую» тэму, знайшлося месца не толькі для горкай іроніі, але і для сапраўднага гумару. І гэта не ўспрымаецца як дысананс. А вось вольнае, лёгкае і нават часам крыху жартаўлівае абыходжанне са словамі «нацдэм», «нацдэмаўшчына», «вораг народа» ў размовах герояў, што шпацыруюць па Мінску канца 1930-х, усё-ткі выглядае… несапраўдным. Тым больш калі адзін з суразмоўцаў — чэкіст. Чэкіст гэты, што праўда, падчас мовазнаўчых гутарак з беларускім пісьменнікам так пранікся цікавасцю да беларускай мовы, што ўрэшце пачаў яе вывучаць, а неўзабаве і сам трапіў у «чорны спіс».

Немагчыма не прызнаць унікальнасць аўтарскай задумы. Хаця такое азначэнне — «фантазія на тэму дакументаў» — і досыць правакацыйнае. Як і выбар тэмы, часу, герояў. А тлумачэнне мастацкай сутнасці твора можна знайсці ў прадмове: «*Той, пра каго пойдзе гаворка ў гэтай аповесці, і сам не раскажа, і ніхто — ужо ніхто на свеце! — не ўзгадае, як ён смяяўся ў маладосці*». Гэта падказка ўдумліваму чытачу: аўтар расказвае тую гісторыю, якую больш ніхто не можа расказаць, — гісторыю пра страчаную маладосць, знявечаны талент і знішчаны смех.

**Жанна КАПУСТА**

Мікола МАЛЯЎКА



## Дарожны санет

*Алегу Захарэвічу*

*Мяняецца пейзаж, скупы спярша.*
*Прысады, прыцярушаныя снегам,*
*Мігцяць уздоўж пуці жывой уцехай,*
*І весялеюць вочы і душа*
*Ад гэтай мілай явы-міража.*
*Шкада, красой не наталіцца спехам*
*Вось так, за электрычкі хуткай*
*бегам, —*
*Сутонне наплывае, як імжа.*

*Пакуль даехаў да канечнай станцыі,*
*Пабыў нібы на выстаўцы мастацкай.*
*І я дарозе ўдзячнасцю плачу*
*За вёрсты ўсе, за краявіды-знічкі:*
*Не цьмеючы, стаяць яны ўваччу,*
*Убачаныя з колаў электрычкі.*

## Як у сне

*Старыя рэчы ў хаце спадчыннай,*
*Партрэты родных на сцяне,*
*І сонца, як усмешка матчына,*
*Пераліваецца ў акне.*

*Вяртае ў маладосць спагадную*
*Зямлі і неба прыгажосць,*
*Ды ўсё на леціцы нагадвае,*
*Што тут і ты — часовы госць.*

*Напаліш стаячок, прытулішся,*
*Нібыта да жывой душы,*
*А выйдзеш раніцай на вуліцу —*
*Без старажылаў свет чужы.*

*Бягуць рыбачыць дзеці з вудамі*
*І мроіна, як у вечным сне,*
*Знікаюць там ужо, у будучым,*
*Дзе сонца не ўсміхнецца мне.*

*Пакіну родным хату матчыну,*
*Сярод партрэтаў — свой партрэт,*
*А з дому толькі ўсмешку матчыну*
*Вазьму з сабой у іншы свет.*

## Акварэлька

*Павучок карункі выткаў*
*З павуцінак — белых нітак.*

*Золак чыстыя расінкі*
*Нанізаў на павуцінкі.*

*Сонца глянула — і міла*
*Гэты ўзор пазалаціла.*

***

*Мілую вачыма,*
*Цалую здалёк:*
*Мой позірк, нібы трапяткі матылёк,*
*Ляціць за табою, спяшаецца ўслед —*
*І кружыцца над галавой неўпрыкмет.*
*Схаваешся, бачыць, пад кронамі дрэў,*
*Адважыўся ён і на шапачку сеў.*
*А ты азірнулася, сцішыўшы крок, —*
*І ўспырхнуў, спалоханы,*
*Знік матылёк.*

## Намольны крыж над хатай

**Землячцы,**
**суседцы-аднакласніцы**
**Марыі Замковай**

*Старэючы, мінулым даражыш.*
*У родным свеце кожны дзень як свята,*
*Хоць гаспадарчых клопатаў багата.*
*Не дакучае і начніца-мыш,*
*Калі бацькоў прыгадваеш, не спіш.*
*Суседка, уздыхнуўшы вінавата,*
*Перахрысціла напаследак хату —*
*Паклала так, рукой, ахоўны крыж.*

*Для нас, вяскоўцаў гарадскіх, чужою*
*Не стане хата з матчынай душою.*
*Засыпле сцежку да парога снег,*
*Астыне печ, на вокны ляжа іней,*
*Ды будзе ззяць над ёй, як абярэг,*
*Намольны крыж, узняты гаспадыняй.*

## Успамінайце класікаў часцей

*Успамінайце класікаў часцей,*
*Паэтаў дзевятнаццатага веку.*
*Зварот да іх — як падарожжа ў Мекку,*
*Каб акрыяць душою, стаць чысцей*
*У свеце грэшных думак і страсцей.*
*Не даравалі ўладам крыўды, здзеку —*
*І простаму спрыялі чалавеку*
*Духоўнай сілай веры і надзей.*

*А да мяне яны прыходзяць самі,*
*Хвалюючы жывымі галасамі.*
*Яны не збіліся ў агульны хор,*
*Высока там, у вечнасці, не сцьмелі, —*
*І тыя, хто ад старасці памёр,*
*І тыя, хто загінуў на дуэлі.*



Фота Кастуся Дробава.

## Адчужаныя сілай

*Дваццаты век, трыццатыя гады.*
*Бацькі і дзеці — ніцыя ад страху,*
*І страх той не маглі прагнаць, як смагу,*
*Ні плачам, ні малітваю тады.*
*Над чалавечым лёсам — знак бяды:*
*Ламалі веру, розум і адвагу,*
*Не адшукаць было і жменькі праху —*
*Губляліся і людзі, і сляды.*

*У мірны час адчужаныя сілай,*
*Яны не ўшанаваны і магілай.*
*Ад катаванняў гінулі, ад куль,*
*Як у вайну ў канцлагерах і гета, —*
*А Сталін грэшны, гледзячы адтуль,*
*Усё яшчэ ўсміхаецца з партрэта.*

## Камень за пазухай

*Па-рознаму высноўваюць свой лёс.*
*Вучыўся ў школе ён, анёлак мамін,*
*А ўжо хаваў за пазухаю камень.*
*Сталеў на службе сам, і камень рос,*
*Цяжэў ад кленічаў людскіх і слёз,*
*Бо той анёл ужо і ў Божым храме*
*Крывіў душой, як дзе на пілараме,*
*Лічыў сябе шчаслівым усур'ёз.*

*Адвекаваў, і ў рамцы некралога —*
*Пахвальны ліст, нібыта пра святога.*
*Паставілі яму, як і прасіў,*
*З выявай твару помнік мармуровы, —*
*А камень, што за пазухай насіў,*
*На памяць лёг, як вырак пажыццёвы.*

## І ажывае ў сэрцы вера

*Яны з мемарыяльных дошак*
*Глядзяць цяпер на свет зямны,*
*Чакаюць нас, бывае, доўга —*
*Героі працы і вайны.*

*Вядомы адрасы прапіскі,*
*І пры сустрэчы кожны раз*
*Хто-небудзь з іх, духоўна блізкі,*
*Сыходзіць, як жывы, да нас.*

*Суровы век, скупы на шчасце.*
*Дзе нам паплечнікаў знайсці?*
*Парою болей, чым сучаснікі,*
*Яны спрыяюць у жыцці.*

*Аддаўшы вуліцам імёны,*
*Яны не адышлі ў нябыт:*
*Іх позірк, часам не замглёны,*
*Лагодзіць, як з-пад хмар блакіт.*

*І ажывае ў сэрцы вера,*
*І праўда б'е ва ўсе званы,*
*І мы без іх ідзём наперад,*
*Без іх, але — і не адны.*

*Яны да першай паваротки*
*Праводзяць нас, глядзяць услед —*
*І зноў вяртаюцца да продкаў,*
*У свой мемарыяльны свет.*

## Я маму сустрэў…

*Заснуўшы,*
*Я маму сустрэў —*
*У свеце птушак*
*І дрэў.*

*Як быццам сваё*
*Адараў, адкасіў —*
*І, маму цалуючы,*
*Я папрасіў:*
*«Даўжэй заставайся*
*Тут, на зямлі,*
*Дзе некалі разам*
*Шчасліва жылі.*
*А я, старое*
*Тваё дзіця,*
*На свеце тым*
*Адпачну*
*Ад жыцця…»*

*Уся засвяцілася*
*Ад любві,*
*Сказала мама*
*Вачыма:*
*«Жыві!»*

## Дэбют



Настасся КАРОТЧЫКАВА

**Нарадзілася 25 лістапада 1996 года ў Мінску. Студэнтка факультэта міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Сябар клуба аматараў мастацкага слова «КЛУмБа». Лаўрэат літаратурнага конкурсу «Славянскі калейдаскоп-2015» сярод студэнтаў БДУ. Друкавалася ў часопісе «Белая вежа».**

***

*Ты стаяла ў белым адзенні,*
*Вецер дзьмуў на твае валасы.*
*Адзінота, як цемры стварэнне,*
*У думках блытала галасы.*

*Дзесьці граў на скрыпцы музыка,*
*Ледзьве чутна, не чуў ніхто.*
*Адзінока гучала скрыпка,*
*Нібы вельмі знаёмы сон.*

*Ты стаяла ў белым адзенні,*
*Вецер дзьмуў на твае валасы.*
*Можа, гэта згасае надзея*
*І мінулі твае часы?*

*Можа, болей не будзе светла?*
*Цемра, жудасць да нас прыйшлі?*
*Ты стаяла, а хуткі ветрык*
*Год за годам сціраў з зямлі.*

***

*Я люблю, калі ў доме ціха*
*І нідзе не гарыць святло,*
*Не чуваць аніводнага ўздыху:*
*Увесь горад заснуў даўно.*

*Я люблю, калі зоркі ў небе,*
*Як ліхтарыкі, ярка гараць*
*Калі шэрая ў цемры мэбля*
*Выглядае, як ночы палац.*

*Добра мне без трывог ды болю.*
*Добра мне, калі не адчуць*
*Ні благога, ні неспакою,*
*І магу я да ранку заснуць.*

## Конкурс «ПЕРШАЦВЕТ»

## Юпіцер

*Мы палялім з табою разам на Юпіцер,*
*Дзе зоркі зыркія чакаюць нас з табой.*
*Жыццё не вечнае, але на той арбіце*
*У нас і вечнасць будзе, і спакой.*

*Лісты мы з Марса слаць з табою будзем*
*Усім тым, хто на Зямлі чакае нас.*
*У бязважкасці і правілы забудзем,*
*І весяліцца будзем увесь час.*

*Глядзець мы на Венеры будзем фільмы,*
*Пакуль кінамеханік не засне.*
*А потым там пасадзім апельсіны —*
*Усё магчыма будзе ў нашым сне.*

*На Сонцы мы з табой спячом пячэнне,*
*А на Меркурыі з табой яго з'ядзім.*
*Нам вечным будзе кожнае імгненне,*
*З табою мы праз космас паляцім.*

*Калі ўсе нашы скончацца хвіліны,*
*Пясчынкі часу спыняць свой імклівы бег,*
*Глядзець мы на Венеры будзем фільмы.*
*А можа, там шчаслівы чалавек?*

# ПРЭЗЕНТАЦЫЯ, альбо З лёгкай парай, карашкі!

Мікола ЧАРНЯЎСКІ



*Гумарыстычнае апавяданне*

Хочаце верце, а хочаце не, пачалася гэта начная адысея з прэзентацыі. Ну, не з такой ужо значнай, рэкламнакідкай, але ж для нас з Віцькам, Федзем ды Яшам — культавай. З прэзентацыі венікаў. У парыльні, дзе наш квартэт усе ведалі як аблупленых.

Пачыналі звыкла, традыцыйна, скажам так. Папарыліся гадзіну з гакам, пасцябаліся духмянымі бярозавымі венічкамі, што на дачах улетку навязалі, пасля за прэзентацыю ўзяліся. Тут Віця Букатка і кажа: «Карашкі, памятаеце анекдот?» — «Які?» — «Ды той, з вусамі ўжо. Прыходзіць, значыць, з лазні муж. П'янюсенькі ў дыміну. Жонка ў лямант: "Зноў набраўся як свіння!" А той толькі мычыць: "Чаго крычыш? Я ж выпіў усяго на два пальцы". — "А з чаго вы пілі?" — "З тазіка"».

Хоць стары анекдот, вядомы, усё ж пасмяяліся, перакінуліся парачкай-другой слоў, прыпасы расклалі на століку. А Віцька, змей скалазубы, падахвоціў неспадзявана: «Усялякая прэзентацыя — гэта ж, карашкі, падзея. Так ці не? Трэба, каб яна хоць нечым ды запомнілася. А што, калі мы сербанём з тазіка, на ўласным вопыце, так сказаць, зловім кайф ад такога дзейства? Што мы будзем шкалікамі, як напарсткамі, цыркацца?» Усе былі ў гуморы, таму Букаткаву ідэю падхапілі ў адзін голас: «Давай!» А той, булькаючы гаючыя кроплі «Крышталю» ў тазік, не прамінуў блазнавата падбадзёрыць, нібы лінуць з конаўкі на распаленыя камяні: «З лёгкай парай, карашкі!»

Засядзеліся позна. Выпіў я колькі мог. Хацеў выпіць колькі хацеў, ды адчуў — ногі не хочуць. Млявымі сталі. А ў галаве туман паплыў. Відаць, духу гарачага залішне хапіў. Ад свежых венікаў дурману бярозавага набраўся.

Выйшлі з лазні, а на вуліцы цемрадзь непрасветная, сырасць неймаверная, ліхтары цьмяна паблісківаюць. Што ты хочаш — восень, цямнее рана. Падалі рукі адзін аднаму — «Гудбай!» — ды кожны ў свой бок патэпаў. Я на прыпынак свайго 53-га тралейбуса прышкандыбаў. А там люду — як раней каля гарэлачнай крамы. Бурчаць, што даўно тралейбуса няма. Яно ж як бывае: то няма і няма, то адзін за другім падрульваюць. Ускочыў ды едзь. Праўда, у гэты раз ускочыць я наўрад ці бы змог, хіба што ўскарабкацца ў той салон.

Пад'ехаў адзін тралейбус. Ці, як мне падалося, на адзін бок пераважыўшыся, прысунуўся. Ад перагрузкі, ад чаго ж яшчэ. У першы не ўбіўся. Але ж бачу: другі сунецца, а за ім яшчэ адзін, трэці. І ў другі не ўціснуўся. Бо не пнуўся надта: трэці ж следам ішоў. Да таго ж пачуў, як вадзіцель у мікрафон астудзіла імпэт жадаючых у салон уплішчыцца: «Грамадзяне, не цісніцеся. Следам ідзе пусты тралейбус. Усе сядзеце». Яно і праўда, той, трэці, лёгенька падкаціўся да прыпынку. Памкнуліся было людзі натоўпам да яго, ды толькі чалавекі чатыры-пяць уяго селі. І я — таксама. Астатнія чамусьці адхлынулі ад расчыненых дзвярэй, быццам бы яны раптам токам ударылі. Пасміхнуўся я з іх ды пачаў аглядвацца, дзе б зручней прычарка… ну… прыпаркавацца. Але ж, як потым зразумеў, радаваўся рана: разгледзеў я, што нумар тралейбуса мой, 53, а што ніжэй вісела шыльдачка «У дэпо» — не прыкмеціў. Вочы ж добра заліў, як жонка кажа.

Падвяла звычка параскашаваць, як у той парыльні. Забыў на запаведзь: калі п'яны — не садзіся, хоць табе і месца абачліва саступяць, а едзь, мужна матляйся стоячы, аберуч ухапіўшыся за поручні. А то заснеш, закалыханы яздою, і хутчэй у выцвярэзнік ці ў міліцыю трапіш, чымся дадому. Адным словам, заснуў я. Ці доўга спаў, ці мала — не ведаю. Лыпнуў вачыма, гляну ў акно тралейбуса, а за ім — цемра густая, як дзёгаць, туманам спавітая. Толькі звод даль агеньчыкі паблісківаюць цьмяна. Дзе едзем, куды едзем? Аднаму Богу вядома. А можа, і не.

А ў п'янага, скажу вам, галава працуе — о-го-го! Не горай за камп'ютар. Зірнуў на гадзіннік — не разабраць, што стрэлкі паказваюць, які час ужо. Скеміў адразу: напэўна, праспаў я свой прыпынак, а тралейбус развярнуўся ды ў зваротны маршрут шпарыць. Хацеў падысці да дзяўчатак, якія купкай гаманліва тоўпіліся ў перадку салона, але пасаромеўся. Падумаюць, што п'яны. Не на той тралейбус сеў, а цяпер тузаюся, ратунку шукаю. Думаю, сыду на прыпынку, на ўласныя вочы пераканаюся, куды едзем. Споўз з прыступак, да слупа з шыльдаю памкнуўся, а тралейбус — як рвануў у тую ж хвіліну, быццам толькі і чакаў, калі злезу, вызвалю яго ад свайго цэнтнерыка з хвосцікам. Агледзеўся: адзін на прыпынку, у цемрадзі, як і слуп з шыльдаю, дзе нумарацыя тралейбусаў



пазначана. Вочы цёр-цёр, каб нешта разабраць на той выцвілай шыльдзе, ды ўсё дарэмна. Бельмы ж добра зас… заліў, як цешча кажа. І гэтыя «шопы» з прыпынкаў пазносілі. Ні жывой душы нідзе.

Перайшоў на другі бок. І там на прыпынку пуста. Толькі аднаго позняга бедалагу ўбачыў. Стаіць, абхапіў слуп рукамі, віхляецца туды-сюды, нібыта вучыцца танцаваць. Трымаюся як магу, сабраў усё сваё красамоўства ў кулак, паказваю ў туманную сырасць і цемру: «На Зялёны Луг туды ехаць?» Толькі мой начны спадарожнік мацней абшчаперыў слуп з шыльдаю над галавой, недасягальнаю для майго зроку, няўцямна зірнуў на мяне, выцconfigured: «А х-х-то яго ведае». І зноў перасмыкнуў нагамі, тузануўся, зняможана апусціў галаву, быццам не гэтыя тры словы вымавіў, а даклад на тры гадзіны прачытаў мне.

Прызнаюся, дрыжыкі пачалі разбіраць, холад за каўнер курткі палез, як вужака нейкая. Хто ведае, колькі часу настукала, ці будзе апошні тралейбус. Раптам бачу: бяжыць, родненькі! Не ўзіраўся ў нумар, уцёрся ў салон, яшчэ раз парадаваўся — амаль пусты. Толькі нейкая парачка раскашуе: хіхікаюць, цалуюцца. Хацеў пацікавіцца ў іх, у які бок едзем, але зноў сорам узяў: падумаюць, што п'яны. Зноў жа камп'ютар спрацаваў: палапаў я па кішэнях пінжака і курткі, намацаў у адной нейкую каляную паперыну, не прыглядаўся асабліва, рыўком адскубнуў ад яе шматок, хоць нязграбна, ды выдрукаваў на пустым беражку пажоўклага шматка «Гэта 53?» Пісаў, як самі разумееце, па ходу тралейбуса, пад яго пакалыханне і тузанне, ручка ледзь слухалася. Але ж напісаў. Нават пытальнік паставіў. Падышоў да кабіны вадзіцеля, праз акенца яму пісаніну паказваю. Сам маўчу, бо, калі загавару, падумае, што п'яны. Сорамна ж будзе. А той, мусіць, падумаў, што я нямы. Доўга ўзіраўся ў запіску, нават ход прыцішыў, потым згодна кіўнуў галавой, але перад гэтым чамусьці неяк дзівакавата зірнуў на мяне і пакруціў каля скроні пальцам правай рукі. З-за чаго б гэта?..

Імчыць тралейбус, на прыпынку лясне дзвярмі, падбярэ чалавека-другога, ды далей прастуе. А я гляджу: за акном ні агеньчыка, цемра адна, глухмень нейкая. Адчуваю: у вачах пасвятлела, камп'ютар у галаве цверазей працаваць пачаў. А тут яшчэ агні наперадзе паказаліся, заблішчалі, быццам зорачкі ў месячную ноч. Уздыхнуў з палёгкай: не памыліўся, што перасеў дарогай. Гэта ж, мусіць, Зялёны Луг мой. А там — да дома, да выратавальнага пад'езда сотню крокаў ступіць! Але што гэта — пад'язджаем пад мост! І ён падобны на той, што аднойчы днём мне ў Маліннаўцы на вочы трапляўся.

І зноў спрацаваў камп'ютар. Скеміў я, сышоў на прыпынку, на другі бок перайшоў. А там таксісты, як тыя зазывалы, каля аўто шастаюць. Думаю, давядзецца раскашэліцца, у заначцы зачыстку правесці, прыхаваным стольнікам руку таксіста пагрэць, а не ўласнае нутро прапаласкаць, сагрэць на дачы, цішком, далей ад цікаўных жончыных вачэй. Усцешвала, што ўсё ж такой-сякой рэштай не абдзяліся. Дзякуй богу, і язык не падвёў, разварушыўся, адрас вымавіць змог. А таксіст-хапуга папярэджвае: «Начны тарыф… Не хочаш ехаць, тэпай пехам…» Ага, разумнік знайшоўся, сам пратэпай пехам да Зялёнага Лугу, што скажаш потым?

Каля пад'езда сунуў я руку ў патаемную кішэню курткі, дзе, як ужо ведаў, прыхавана няволіўся навюткі стольнік, намацаў яго, цёпленькі, з незалежным відонам «новага беларуса» двума пальцамі на свет дастаў. Падаю грошы таксісту, а той вочы вылупіў, успыліў раптам: «Ты што, за дурня мяне прымаеш? Куды я іх дзену? Хто ў мяне прыме такія?» — «Бяры, якія ёсць. Іншых грошай у мяне няма. Хіба сотні мала? — нічога не разумеючы кажу я. — Распанелі вы дужа, прывыклі абдзіраць народ!» — пайшоў нечакана ў наступ. А таксіст не слухае нават, пагрозліва-рашуча за рукаў скубнуў: «Ці расплачвайся нармальна, ці ў міліцыю здам!.. Пралупі бізікі, паглядзі на сваю сотню!..» Прыгледзеўся да свайго стольніка — і мову адняло, язык зноў нібыта прысох у роце: о божа, хто ж гэтак паздзекаваўся з маёй купюры, адшматаў ад яе ледзь не самую палову? Хто ў заначку лазіў, на смех ды сорам выставіў мяне?.. Не веру вачам сваім, паднёс скалечаную сотню бліжэй да святла ў кабіне, распасцёр, пагляджэў на яе з усіх бакоў і… І тут нечакана цюкнула ў галаву, зноў камп'ютар у ёй уключыўся: дык вось чаму вадзіла тралейбуса каля скроні пальцам круціў, як убачыў маю запіскуабадранку?.. А куды ж я падзеў яе, такую дарагую?.. Мусіць… Ці не ў тралейбусе на шыбіну прыляпіў?..

Таксіст, скажу вам, вушлым аказаўся, тут жа спытаў нумар майго хатняга тэлефона, па мабільніку жонцы дзынкнуў, патлумачыў, што да чаго. Зліталавалася тая, забрала мяне з таксапалону. Калі падымаліся ў ліфце, дыхнуўшы перагарам валяр'янкі і карвалолу, патрасла перад маім носам пустым кашальком, змэнчана выціснула: «Дзе ты швэндаўся? Я ўжо думала, што пад машыну трапіў, хацела міліцыю на нозі падымаць…» І яшчэ болей пацямнела тварам: «Дома я табе такую парыльню наладжу, што і Яшу з Букаткам ікота возьме!..»

Зайшоў у кватэру, паўтараю, як заведзены: «Трэці лішні… Трэці лішні…» «Хто? Можа, трэцяя лішняя? Гаварыла ж табе: ведай норму, не перабірай! Няўжо душа так прагне гэтай гары нахапаца, нажлукціцца?» — не можа супакоіцца жонка, знервавана бутэлечку з валяр'янкай трасе, каб у кілішак накапаць, а я ад хвалявання ды працверазення чапу: «Трэці лішні тралейбус, трэці лішні тралейбус…» «Бельмы не залівай, пі як людзі», — не прамінула ўкалоць не такая ўжо і ўедлівая цешча.

Пасля гэтага начнога вандравання я зразумеў яшчэ раз: п'яны ці нічога не плаціць за праезд, ці раскашэльваецца, як той круты гуляка. І цяпер заўсёды, вяртаючыся з парыльні, стараюся ўціснуцца ў самы перапоўнены тралейбус: і паваліцца ды заснуць не дадуць, і на таксі траціцца не давядзецца. Хіба што на адарваныя гузікі.

# Святло і мужнасць горнага краю

## Нізом КАСІМ



**Прадстаўляючы вершы Нізома Касіма — старшыні Саюза пісьменнікаў Таджыкістана, — мы ў чарговы раз згадваем гэтую прыгожую горную краіну, яе багаты на сардэчнае цяпло народ. Літаратурныя стасункі паміж Беларуссю і Таджыкістанам у апошняе дзесяцігоддзе ці амаль дзесяцігоддзе ў многім плённа развіваюцца дзякуючы старанням, руплівасці члена Саюза пісьменнікаў Беларусі празаіка і драматурга Ато Хамдама. Прыехаўшы аднойчы ў Мінск, ён назаўсёды палюбіў нашу старонку. І з паэтам Нізомам Касімам таксама ён пазнаёміў беларускіх перакладчыкаў. Акалічнасць істотная, бо ў сувязях літаратур заўсёды неабходны шчырая ініцыятыва, шчодрая самаахвярнасць. Гэта праяўляецца ў творчасці і самога Нізома Касіма. Ён і ў вершах бачыць, адчувае Беларусь, асэнсоўвае драматычную гісторыю нашай краіны. Ён і як перакладчык выступае блізкім да мастацкага слова Коласа і Купалы творцам. Дарэчы, Нізом Касім — пра гэта мы гутарылі з ім неаднойчы — добра ведае беларускую паэзію, прозу сваіх беларускіх равеснікаў. Такая ўвага, зразумела, з ранейшых часін. Але ж ужо на паяднанне таго савецкага перыяду шмат хто зусім і забыўся. А вось паважаны устод (так завуць на Усходзе настаўніка, старэйшага таварыша, да якога ідуць па ўрокі жыцця) Нізом памятае, працягвае чытаць, часам настойліва шукаючы творы таго ці іншага аўтара. Мо таму і рэалізаваны ў Таджыкістане цэлы шэраг творчых праектаў, калі на мову Рудакі былі перакладзены вершы, проза многіх беларускіх пісьменнікаў з розных пакаленняў. Дарэчы, усяго па-таджыкску выдадзена амаль 40 кніг пісьменнікаў Беларусі. Гэта, зразумела, за ўсю гісторыю адносін паміж нашымі народамі, рэспублікамі, краінамі. І, тым не менш, лічба ўражвае... А характар сённяшніх зносін пераконвае: прастора мастацкай, творчай дружбы развіваецца, істотна пашыраецца. У гэтым вялікая заслуга і Ато Хамдама, і паважанага госця Дзён культуры Таджыкістана, якія зараз ладзяцца ў Беларусі, — Нізома Касіма.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

***

*Мой бацька дзень і ноч маліўся,*
*каб у яго дзяцей*
*не было ваеннага дзяцінства.*
*І яго*
*ў нас не было.*
*У мяне не было ваеннага дзяцінства,*
*я*
*не ведаў ніколі —*
*што гэта такое,*
*Я жыў у спакоі.*
*Таму я не маліўся,*
*каб*
*у маіх дзяцей*
*не было ваеннага дзяцінства,*
*і дзяцінства іх*
*стала ваенным.*
*Дзеці мае,*
*памаліцеся,*
*каб у дзяцей вашых*
*не было ваеннага дзяцінства,*
*і,*
*веру я,*
*гэтага ў іх*
*не будзе.*

***

*Дзякуй, дарога,*
*Дзякуй, дарога, —*
*Прывяла да парога мяне ад парога.*
*Праз дымы і заслоны пранесла агню.*
*Дзякуй, што не згубіла мяне, — не маню.*

*Пераплёў тваёй ніткай я столькі вузлоў,*
*Столькі зла абышоў,*
*Быў у коле сяброў.*
*Ды наперад ты клікала, колькі магла.*
*Дзякуй табе,*
*Пашана табе і хвала.*

*Я адмовіў сабе ў бездарожжы зусім.*
*Як сабе,*
*Я паверыў табе*
*Назусім.*
*А прыйшоў не туды.*
*Як сябе дакараў!*
*Ты прамая заўжды,*
*Я цябе не мяняў.*

*Я шчаслівы, дарога,*
*Што табою пайшоў,*
*Да кахання дайшоў*
*І каханне знайшоў.*
*Дзякуй, дарога,*
*Дзякуй табе*
*За спазненні яе*
*І прыходы яе.*
*Ты адна хваляванні лавіла мае,*
*Ты з сабою забрала сумневы мае.*

*Так,*
*сумневы мае ты з сабою звяла,*
*наталіла надзеяй*
*І розум дала.*

*Пакуль я — на нагах,*
*Ты са мною ідзі,*
*Ты, нарэшце, мяне*
*Да мяне давядзі.*
*А калі абарвецца жыццё,*
*Прашу Богам:*
*Іншых ты давядзі,*
*Будзь да шчасця дарогай…*

***

*Людзі цвёрда верылі заўжды:*
*Як смяротны надыходзіць час,*
*Знічка коціцца з вышынь тады —*
*Гэта след памерлага пагас.*

*Калі шчыра ты пражыў жыццё*
*І ў душы заўсёды ёсць любоў,*
*Зорка ў небе ўспыхне — адкрыццё:*
*Смех каханай ты пачуеш зноў.*

*Для цябе чужыя лёс і свет?*
*Памятай,*
*З надзеяй не глядзі:*
*Проста ў вышыні, сярод планет,*
*Зорку непрыкметную знайдзі!*

*Гэта продкі мне распавялі.*
*Устаю з зямлі я на ўвесь рост.*
*Новы сэнс шукаю на зямлі*
*Ночы, поўнай зоркамі нябёс.*

*Зоркі — блікі нашага дабра,*
*І без зоркі ў светлы край ад сну*
*Чалавек прыходзіць, бо пара*
*Над сабою запаліць адну.*

*Свечкай,*
*Не зважаючы на зло,*
*Добраму да твару — што й казаць, —*
*Азараючы зямлю святлом,*
*Зорка добрая працягне ззяць.*

*Зоркі — гэта знакі дабрыні,*
*Што сыходзяць па начах з нябёс.*
*Дорачы давер нам дзень пры дні,*
*Кепскія сляды знішчае лёс.*

## Звон сэрца

*Твой тэлефонны званок ачышчае*
*Сумнае сэрца, што ржа пакрывала.*
*Ён і жыццё мне змяніць абяцае:*
*Колеру ж гэтак раней бракавала!*

*Ведаеш, ціхі званок больш каштоўны,*
*Чымся напевы і пераzвоны.*
*Здолею вылучыць я, безумоўна,*
*З мільёнаў яго, і з многіх мільёнаў.*

*Слухаўку моцна ў далоні сціскаю.*
*Як жа хвалююся — не да спакою!*
*Ніхто не адчуе, як я адчуваю,*
*Голас той — боскае, незямное.*

*Звон тэлефонны ніяк не забуду,*
*Звон тэлефона ёсць краевугольным*
*Каменем лёсу майго, светлым цудам,*
*Шчасця вялікага звонам чароўным.*

*Звон тэлефонны… Ён безупынку*
*Сэрца маё ачышчае ад сору.*
*Як не пачую цябе — на хвілінку, —*
*Сэрца пакрыецца ржою ад гора!*

**З таджыкскай.**
**Пераклад Яны ЯВІЧ**

***

*Праўда адвечная*
*ўстане на поўны рост —*
*як з дробнай хвілі стварaецца вечнасць.*
*Сэнс жыцця існы пануе наўпрост:*
*мрэ чалавек,*
*ды жыве заўжды чалавечнасць.*

## Выдужанне

*У мяне тэмпература*
*пад сорак,*
*і мроіцца мне,*

*што гэта —*
*мой апошні тэрмін.*

*Таму я ўстаў,*
*узяў паперу, асадку*
*і напісаў, —*
*на здзіўленне лёгка*
*вершаў чародку.*

*Потым пайшоў на кухню,*
*Дапіў пачаты «Нарзан»,*
*сеў за стол —*
*чытаць пачаты раман.*
*Потым панюхаў*
*Прагна дзяцей:*
*Люблю больш за ўсё*
*пах гэты на свеце.*

*І са слязьмі на вачах*
*выняў я —*
*з самаробнай рамы*
*сціплае фота таты і мамы,*
*і працёр сірыйскай фіранкай —*
*жончынай даўняй марай,*
*што купіла яна за свой*
*двухгадовы заробак.*

*Дзеці з сумам на гэта глядзелі,*
*А мая драбнічка Махвора,*
*каб і ёй штосьці бачна было,*
*ўстала на дыбачкі,*
*толькі ўсё роўна не бачыць.*

*І жонка*
*пяшчотна*
*яе ўзняла*
*і волю дала слязам…*
*Думаю, гэта не з-за фіранак.*
*Потым пайшоў я да кніг сваіх,*
*узяў ласкава кожную ў рукі*
*і прыгадаў:*
*ўсё жыццё трымалі яны на волі,*
*ратуючы кожны раз*
*з вязніц бяздзейнасці,*
*ленасці, скрухі…*
*Агледзеў уважліва кожны куток*
*сваіх чатырох пакояў,*
*якіх людзі мне не хацелі даваць,*
*ды Бог усё-ткі даў —*
*маім чацвярым драбніцам.*
*І палымяна казаў ля пліты,*
*як чалавек пры справе:*
*«Дзякуй табе за ўсё,*
*колькі мяне ты грэла!»*
*Апошнім поглядам*
*лашчыў я потым балкон —*
*гэты цудоўны рай,*
*з якога дзеці мае ўпершыню глядзелі*
*на студзеньскі снег, Першамай.*

*Каб запомніць*
*твары даўніх школьных сяброў,*
*ўзяў я з шафы віньетку,*
*а вочы мае сталі поўныя слёз,*
*і я,*
*каб схаваць гэта капаннем*
*кропель сваіх,*
*выпрасіў у жонкі піпетку;*
*а потым гляджу:*
*ўсюды нястачы:*
*нехта хварэе,*
*нехта памёр,*
*хтосьці забіты.*
*І вось — Яна…*
*Стрэламі бровы імклівымі,*
*я быў гатовы памерці за іх,*
*ды толькі сказала,*
*што будзе для іншага жыць.*
*Кажуць, сыноў мае траіх ад трох*
*памерлых мужоў.*
*Нешта не шчасціць з мужчынам…*
*Што ж нарабілася!*
*Вынес ціхутка на двор*
*кубкі сваіх вачэй,*
*быццам бы стаў пад халодны душ.*
*Выліў там у адзіноце*
*пад кусцікі руж.*
*Пагаманіў з суседам*
*пра тое,*
*пра сёе —*
*пра хлеб,*
*пра соль;*
*выгляд мой, пэўна,*
*здаваўся здаровым,*
*таму не казалі нічога аб болі маім.*

*Тут кліча гуляць Махвора,*
*і я*
*пайшоў з ёй гуляць.*
*Яна радасна кружыць вакол,*
*а я*
*неяк ад шчасця прысеў,*
*шчыра крануты,*
*глядзеў мурашоў.*

*Вярнуўся дадому,*
*жонка трывожна глядзіць.*
*У гэту хвіліну стаў мілы мне свет,*
*і жонка — самаю гожай.*

*І зноўку,*
*як быццам на першым спатканні,*
*такі сарамлівы.*
*Усе падумалі — выдужаў ён.*
*І я выдужаў!*

## Адной бухарскай дзяўчыне

*Зарафшон свае воды нясе ў Бухару,*
*так душа мая ў смутку да сонца імкнецца.*
*Ты яе перапоўніла, праўда, хутчэй,*
*чым цябе я на памяць змог завучыць.*
*Як даўно непазбежна была ты маёй,*
*ды ў сэрцы заўсёды мы разам.*
*Толькі шлях забаронены к брамцы тваёй,*
*так мы сум усвядомілі з часам.*

*Эх, даўно непазбежна маёй ты была,*
*і не годы, здаецца, —*
*стагоддзяў страла.*

*Я б і рад назаўсёды цябе пазабыць,*
*ды няможна —*
*як жыць мне ў нявер'я пару?*
*З ачмурэлай душою што мне рабіць,*
*калі зноў*
*Зарафшон бяжыць ў Бухару?..*

**З таджыкскай.**
**Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА**

# «Мы працягваем чытаць, але страцілі культуру чытання…» —

## лічыць дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна Ілона Сарокіна

**«Бібліятэкі важней за ўсё ў культуры. Можа не быць універсітэтаў, інстытутаў, іншых культурных устаноў, але, калі бібліятэкі ёсць, культура не загіне ў гэтай краіне», — пісаў калісьці расійскі вучоны-літаратуразнаўца Дзмітрый Ліхачоў. Ці адпавядае гэта выслоўе цяперашняй рэчаіснасці, калі амаль любую кнігу можна знайсці ў інтэрнэце? Наколькі запатрабаванымі застаюцца бібліятэкі ў наш час, чым яны дыхаюць, як прыцягваюць да сябе чытача? Пра гэта і іншае мы пагутарылі з кіраўніком самай вялікай у Магілёўскай вобласці бібліятэкі Ілонай Сарокінай.**



*Ілона Сарокіна.*

**— Бібліятэку яшчэ называюць храмам культуры, а ў рэлігіі, калі ты нават верыш, але не наведваеш храм, нельга назваць цябе ўцаркоўленым. А як тады з бібліятэкай? Можна сказаць, што менавіта тут нараджаецца сапраўдная любоў да чытання?**

— Любоў да чытання закладваецца ў сям'і, а бібліятэка і школа толькі потым дапамагаюць у развіцці. У дзіцяці, якому бацькі не чыталі, няма патрэбы ў чытанні. Яму прасцей паглядзець мультфільм, кіно і ні пра што не думаць. Але пры чытанні застаецца месца для творчасці, аналізу. Альберт Эйнштэйн казаў: «Калі вы жадаеце, каб вашы дзеці былі разумныя, чытайце ім казкі, калі вы жадаеце, каб яны былі яшчэ больш разумнымі, чытайце ім яшчэ больш казак». Дарэчы, па меркаванні англійскіх вучоных, не музыка стаіць на першым месцы па супакаенні, а чытанне. Дзесяць хвілін чытання дапамагаюць зняць нервовае пераўзбуджэнне.

**— Здаецца, у параўнанні з савецкім часам мы сталі меней чытаць. Гэта сапраўды так?**

— Гэта не так. Сёння меней не чытаюць. Магчыма, у бібліятэку ходзяць меней. Асабліва ў параўнанні з 90-мі, калі нельга было купіць кнігу ў краме і народ ішоў да нас. У 1998 годзе, калі я прыйшла сюды працаваць, у выхадныя дні чытальныя залы да паўдня былі ўжо цалкам запоўнены. Зараз з'явілася шмат спосабаў знайсці навінку — сфатаграфаваць, спампаваць, скапіраваць і гэтак далей. Але моладзь па-ранейшаму чытае. Магчыма, кульгае якасць чытання. Я, напрыклад, са сваім не такім ужо і малым досведам чытання, у тым ліку і па дыяганалі, не перастаю здзіўляцца той хуткасці, з якой чытаюць нашы дзеці. Звярніце ўвагу на тых, хто сёння сядзіць у грамадскім транспарце з электроннымі чыталкамі. На жаль, культура чытання вельмі кульгае. Узгадайце, як гэта рабілі раней: з алоўкам, з закладкамі. Адной з форм працы бібліятэкі заўсёды было абмеркаванне кнігі. Калі нешта цікавае прачыталі, трэба з кімсьці падзяліцца. Зараз, на жаль, ніхто не надае гэтаму значэння. Працэс пераўтвараецца ў паглынанне. А гэта як з ежай: калі паглынаеш, цяжка пераварыць.

**— Якая літаратура зараз карыстаецца поспехам у чытачоў?**

— Яшчэ некалькі год таму аўтары рабілі стаўку на негатыў, забойства... Попыт на такую літаратуру ўпаў. Зараз людзей цягне на добрую мастацкую літаратуру. Вельмі прыемна, што сталі паяўляцца сучасныя аўтары, якія пішуць годна. Мы адсочваем усе навінкі, якія атрымалі літаратурныя прэміі ў Беларусі, Расіі і за мяжой, стараемся папаўняць імі нашы фонды. Летась самым нашумелым творам у Расіі стала кніга Гузель Яхінай «Зулейха адкрывае вочы». У нас яе зачыталі да дзір. Цікавы сучасны раман. Поспехам карыстаецца твор Людмілы Уліцкай «Лесвіца Якава». Радуе, што з'явіліся цікавыя беларускія аўтары. Той жа Валерый Гапееў з яго «Ведзьмінай Тоняй», лічу, павінен быць у школьнай праграме. Там закрануты ўвесь комплекс сацыяльных праблем. Твор невялікі, але чытаецца на адным дыханні. І дзеці бяруць. Хаця спачатку стаўленне да яго было вельмі скептычнае. Маўляў, што цікавага можна ўбачыць ў беларускай кніжцы, ды яшчэ і на роднай мове. Даводзілася нават угаворваць. Але потым кніга не паспявала вяртацца на палічку. Бралі і бралі. Інфармацыя сярод дзяцей распаўсюджваецца вокамгненна.

Прыемна здзіўляе і тое, што дарослы чытач ідзе ўжо падрыхтаваны. Такіх людзей, якія кажуць: «Ну дайце мне штонебудзь пачытаць», амаль няма.

**— Як зараз папаўняецца бібліятэка? Ці шмат чаго можа сабе дазволіць? Па якім прынцыпе ідзе адбор?**

— Мы адносімся да публічных бібліятэк, абслугоўваем усе катэгорыі чытачоў. Задавальняем запыты, пачынаючы з дзіцячай і папулярнай літаратуры, заканчваючы адукацыйнай і навуковай. Паколькі мы яшчэ і кнігасховішча ўсёй вобласці, стараемся мець у сваіх фондах усю «беларусіку», усё, што звязана з краінай, Магілёўскай вобласцю. У нас ёсць досвед пошуку гістарычных кніг, якія не захаваліся ў нашых фондах, вяртаем іх у аблічбаваным выглядзе. Закупляем усе раённыя газеты, абласныя, рэспубліканскія, краязнаўчыя, купляем сацыяльна значныя выданні, якія тычацца Беларусі, — альбомы, даведнікі і гэтак далей. Стараемся прытрымлівацца прапорцыі 60% — навуковая і навукова-папулярная літаратура і 40% — мастацкая. У нас ёсць усе аўтары, якія складаюць сённяшнюю школьную праграму, набываем любоўныя раманы і дэтэктывы — на іх таксама ёсць попыт (мы павінны задавальваць усе густы чытачоў). Вялікую работу праводзім па рарытэтных выданнях, набываем рэпрынтныя кнігі. Апошняя літаратура не для масавага чытача, але мы павінны фарміраваць ідэалагічны і гістарычны складнік нашай дзяржавы. Фонды сельскіх бібліятэк фарміруюцца крыху інакш, там акцэнт робіцца на мастацкую літаратуру і перыядычныя выданні. Калі ў вёсцы жыве, вобразна кажучы, 70 жыхароў і няма ні школы, ні моладзі, бібліятэку замяняе бібліёбус. Іх у нас, дарэчы, 18. Гэта вельмі добры варыянт. Два гады таму нас, кіраўнікоў абласных бібліятэк, вазілі ў Германію для пераймання досведу. Там наогул няма паняцця «сельская бібліятэка». Ёсць раённая і вялікі добры бібліёбус з усім неабходным начыннем. У населеных пунктах для яго прадугледжаны спецыяльныя стаянкі, дзе ён двойчы ў месяц працуе некалькі гадзін запар.

**— Нямецкія бібліятэкі прыкметна адрозніваюцца ад нашых? Ці можна іх наогул параўноўваць?**

— У Германіі мы наведалі бібліятэку Берлінскага ўніверсітэта імя Гумбальта (Цэнтр братоў Грым). Мяне ўразіла, што чытачы там усё робяць самі: пачынаючы ад падбору кніг па электронным каталогу і заканчваючы іх пошукам на патрэбных палічках. Там людзі болей разняволеныя і могуць працаваць у любой зручнай для сябе позе, нават закінуўшы ногі на стол. Але яны не парушаюць асабістую прастору свайго суседа. Недахопу ў чытачах там няма, але параўноўваць нас нельга. На Захадзе добра працуе закон аб аўтарскім праве. Пірацтва няма наогул. Такога, каб нешта бясплатна спампаваць з інтэрнэту, няма. Усё толькі за грошы. У нямецкай бібліятэцы ёсць доступ да любых алічбаваных крыніц. Але чытачу даецца магчымасць карыстацца пэўным файлам на працягу толькі некалькіх тыдняў, потым гэты файл становіцца для яго недаступным.

**— Сёння шмат разнастайнай інфармацыі і трэба добра арыентавацца ў гэтай бязмежнай прасторы. Наколькі лягчэй гэта зрабіць з дапамогай бібліятэкі?**

— Зайдзіце сёння на сайт любой бібліятэкі, да вашых паслуг электронны каталог. Яго можна адкрыць у сябе дома і паглядзець, ці ёсць тут тое, што вам патрэбна. Базы дадзеных на Захадзе развіваюцца з 60-х гадоў мінулага стагоддзя, а мы да гэтага толькі прыйшлі. У нас існуе ўжо некалькі такіх баз. Адна з іх — «Таленты ад роднай зямлі» — уключае прозвішчы 357 магілёўскіх пісьменнікаў, паэтаў, публіцыстаў, іншых выбітных асоб. Над ёй працавалі ўсе бібліятэкі вобласці, кожная шукала інфармацыю пра свайго земляка, правяралі па энцыклапедыях. Праца зроблена вельмі вялікая, нягледзячы на тое, што дадзеныя падаюцца сціслыя.



*Найбольш актыўныя чытачы бібліятэкі — дзеці.*

Нам ставяць у папрок пустыя залы. Але сучаснаму чытачу не трэба, як калісьці, сядзець у сценах — ён можа прыйсці і ўсё, што яму неабходна, спампаваць, сфатаграфаваць і пайсці. Сёння людзі ідуць, каб мы знайшлі для іх інфармацыю па розных тэмах. Часцей за ўсё гэта студэнты. За свае паслугі бяром па мінімуме. Калі чалавек не хоча працаваць сам, а чакае, калі за яго зробяць іншыя, гэта справядліва. Наогул, мы аказваем каля 40 платных паслуг: капіраванне, фотапаслугі і гэтак далей.

**— Дарэчы, а наколькі складана бібліятэкам існаваць ва ўмовах рыначнай эканомікі. За кошт чаго даводзіцца выжываць?**

— Ва ўсіх бібліятэках ёсць план платных паслуг, і кожны сам шукае спосабы, як яго выканаць. Чавусы, напрыклад, адкрылі сувенірную краму; Шклоў набыў спецыяльнае абсталяванне і робіць усё, пачынаючы ад паштовак, заканчваючы дыпломамі; Круглае купіла прынтар, з дапамогай якога ўпрыгожвае малюнкамі майкі, кубкі і гэтак далей; Клімавічы робяць магніты, буклеты і іншую дробную прадукцыю; у Чэрыкаве зарабляюць сувенірамі з паперы, займаюцца квілінгам; Асіповічы выязджаюць з платнымі лялечнымі прадстаўленнямі — там для дзяцей пры бібліятэцы створаны гуртогк, дзе яны самі робяць лялькі, пішуць сцэнарыі, выступаюць у ролі артыстаў. Мы намагаемся зарабіць грошы, але, калі прымусіць бібліятэку пераўсці на поўную самаакупнасць, на ёй прыйдзецца паставіць крыж. Бібліятэка ніколі сябе не акупіць. Мы нават не абаронены ад таго, верне чытач кнігу або не. Калі за мяжой існуе адказнасць за кнігу, якую ты ўзяў у бібліятэцы і не вярнуў, то ў нас такога няма. Там прозвішча нядобрасумленнага чытача ўносіцца ў агульную базу, і ўсюды, куды б ён ні звярнуўся, на ім будзе кляймо злодзея, які скраў дзяржаўную маёмасць. Раней па законе, калі чытач доўга не вяртаў кнігу, мы маглі звяртацца ў адрасны стол, каб удакладніць, дзе ён. Можа, памёр, памяняў адрас або пераехаў у іншы горад — нам трэба мець падставу для спісання кнігі. Але цяпер няма нават такой магчымасці. Вярнуць дзяржаўную кнігу або не — сёння цалкам на сумленні чытача.

**— Ці шмат пастаянных чытачоў у бібліятэкі?**

— Прыкладна 53% жыхароў вобласці. І гэта стабільны працэнт. У нас 16 бібліятэк маюць сайты, і колькасць наведванняў павялічылася на 3% за кошт віртуальных рэсурсаў. Меней стала хадзіць студэнтаў, бо зараз створаны вельмі добрыя бібліятэкі пры навучальных установах, якія рэгулярна камплектуюцца. Завочнікі, пенсіянеры, падлеткі, дзеці — гэта асноўны наш чытацкі касцяк. Крыху менш чытачоў ва ўзросце 35 — 45 гадоў. Магчыма, таму, што гэта якраз той перыяд, калі чалавек актыўна займаецца сям'ёй і кар'ерай.

**— Зараз стала нямодным трымаць хатнія бібліятэкі. Ці часта да вас звяртаюцца, каб аддаць свае кнігі?**

— Сёлета было менш. Масавае знішчэнне асабістых бібліятэк прыйшлося на 2013 — 2015 гады. Мы забіраем усё. Нехта прывозіць сам, калі кніг шмат — мы едзем. Пры бібліятэцы ў нас створаны падменны рэзервовы фонд, за кошт якога свае фонды папаўняюць школы, папраўчыя ўстановы. Тое, што не разыходзіцца зусім, падчас мерапрыемстваў мы выстаўляем у шафе і адпускаем у вольнае плаванне.

**Нэлі ЗІГУЛЯ,**
**фота аўтара**

# Хаджэнне з (за) зоркай



*Дар'я Раманенка ў Пухавіцкім гісторыка-краязнаўчым музеі, 2016 г.*

Першую чвэрць кожнага стагоддзя можна параўнаць з творчым прылівам у мастацкай творчасці, які прыўносіць у культурнае жыццё шмат новага і наватарскага. У другой палове 2010-х гадоў ужо можна вызначыць відавочныя тэндэнцыі, якія абяцаюць стаць вызначальнымі найперш у маладзёжнай творчасці. Самае галоўнае — у сучасным мастацтве ўзрастае значнасць вобраза чалавека з яго складаным і праблемным поглядам на рэальны свет і самазаглыбленасць у інтравертыўных перажываннях і летуценнях. Адпаведна, змяніліся і сродкі мастацкай выразнасці. Колькі дзесяцігоддзяў таму брутальная экспрэсіўная дэфармацыя вобраза чалавека лічылася «апошнім словам» у вызваленні ад афіцыйнага стылю, нефармальным выклікам «замшэлым» кансерватыўным густам. Цяпер стылізаваны чалавеказнак, умоўная маска твару з прымітыўна акрэсленымі мімічнымі характарыстыкамі — толькі даніна рэтраўспамінам пра колішні хуткаплынны «перабудовачны» перапад у змаганні за свабоду творчасці.

Беларускаму маладзёжнаму мастацтву нашага стагоддзя пашчасціла з дзвюх прычын. Свабода творчага выбару самавыражэння — бясспрэчнае права кожнага мастака. Пры гэтым не быў пушчаны пад адхон добра адладжаны працэс прафесійнай мастацкай адукацыі. Такая грунтоўная падрыхтоўка дазваляе кожнаму дыпламаванаму мастаку, якому ёсць што сказаць сваім сучаснікам, смела і ўпэўнена брацца за самую розную актуальную праблематыку і вырашаць яе на бездакорным выяўленчым узроўні. Гэты працэс творчых пошукаў і знаходак можна параўнаць з узыдмам да вызначаных мэт па яшчэ няходжаных пакручастых пагорках. Але шлях напружанага ўзыходжання больш дастойны маладога прафесіянала, чым наўмыснае спрашчэнне мастацкіх задач пад моднае дылетанцтва ці меркантыльнае падпарадкаванне сумніўным салонным інтарэсам.

Сярод прадстаўнікоў самага маладога пакалення беларускіх жывапісцаў з акадэмічным дыпломам 2016 года актыўнай самастойнай творчасцю вызначаецца Дар'я Раманенка. Толькі скончыўшы заняткі ў мастацкай школе ў роднай Мар'інай Горцы, яна ўжо ў 2005 г. паступае ў Рэспубліканскую гімназію-каледж мастацтваў імя І. Ахрэмчыка, дзе здзіўляе настаўнікаў надзвычайнымі здольнасцямі ў амаль рэнесанснай вытанчанасці перадачы натуры ў жывапісе і малюнку. Але імкнулася яна, дзякуючы выключнаму ўменню маляваць, да большага: перадаць індывідуальнае вобразнае бачанне свету. Таму ставарае рамантычныя кампазіцыі, дзе рэальнасць пераплятаецца з міфамі, загадкавымі мроямі.

Яе неўтаймаванасць была заўважана і падтрымана. Кіраўніцтва гімназіі накіравала мастачку ў 2009 г. на творчы майстар-клас пад дэвізам «Саюзная дзяржава — маладым талентам ХХІ стагоддзя» ў Маскоўскі дзяржаўны акадэмічны інстытут імя В. Сурыкава да вядучага прафесара Сяргея Сірэнкі. Пасля напружанай працы пад яго кіраўніцтвам і насычанай культурнай праграмы шлях у Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў быў прадвызначаны.

Аднак Дар'я неяк не ўпісалася ў рамкі для абітурыентаў-бюджэтнікаў і змушана была вучыцца шэсць гадоў на кафедры жывапісу, нягледзячы на высокія



*«Сланечнік», палатно, алей, 2016 г.*

адзнакі па спецыяльных прадметах, на платнай аснове. Яна не пакінула сваіх рэнесансных захапленняў, якія патрабавалі максімальнай самааддачы ў вучэбных, курсавых заданнях. Гэта не перашкодзіла ёй брацы актыўны ўдзел ва ўсіх маладзёжных выстаўках, дзе патрабуецца не проста фармальна выстаўціца (9-10 выставак даюць права падаваць заяву на ўступленне ў БСМ), а жаданне вызначыць свой упадабаны вобраз чалавека. Летуценнік, аматар далёкіх палётаў на паветраным шары ці завадатар вандровак на роварах тэхнічнага ўзору мінулых стагоддзяў... Галоўнае, што ён не «прыклеіўся» да камп'ютарных гульняў і не сядзіць на адным месцы. Сапраўдным святам для блізкіх, землякоў сталі дзве выстаўкі маладой мастачкі «Мой погляд» (2009) і «Бліжэй да чалавека» (2014). Частка экспанаваных твораў была падаравана Пухавіцкаму гісторыка-краязнаўчаму музею, дзе ўжо знаходзіцца прадстаўнічая калекцыя беларускага мастацтва другой паловы ХХ — пачатку ХХІ стст.

У Мінску Дар'я таксама не адкладала «на потым» актуальную задачу свайго далучэння да «глабальнага дыялогу культур». Яе цікавяць гістарычныя і культурныя паралелі з каларытным і натхняльным іспанамоўным светам. Таму стала ўдзельніцай студэнцкай выстаўкі «Палымянае сэрца Хасэ Марці» (2012) у выставачнай зале Акадэміі мастацтваў, дзе атрымала прыз за лепшае ўвасабленне вобраза кубінскага рэвалюцыянера. Удзельнічала ў творчым праекце Таварыства дружбы «Беларусь — Іспанія» пад назвай «7 вялікіх іспанскіх мастакоў з імем Франсіска» (2014).

Такія неабмежаваныя творчыя далягляды дазволілі мастачцы неўзабаве ўбачыць і сваю вялікую тэму, не зусім шматгранна засвоеную ў беларускім мастацтве. Гэта традыцыі «Батлейкі», якая, не зважаючы на розныя перашкоды ды забароны, узбагачае нашу незалежную народную культуру больш як 500 гадоў. І разам з тым дае найбыдатнейшы вобразны ключ да разумення таго, што свабодная творчасць, сувязь з дэмакратычнымі традыцыямі свету і ёсць трывалая аснова для беларускага мастацтва як у мінулым, так і ў сучаснасці. «Бэтлеемка. Хаджэнне з зоркай» стала для Дар'і Раманенка сапраўдным этапным здабыткам на творчым шляху, атрымала ўвасабленне ў дыпломным паліпцыху, які быў адзначаны найвышэйшай адзнакай. У гэтым творы ўражвае стылістычная сувязь розных мастацкіх эпох у свабоднай аўтарскай інтэрпрэтацыі, з улікам складанага і вытанчанага аўтарскага стылю. У цэнтры ўвагі — вобраз маладой актрысы-лялечніцы, у задуменных рысах якой — падабенства да самой мастачкі.

Апроч складаных і адказных прафесійных задач, у творчай моладзі ёсць права і на «вольную» творчую гульню, якая «не ціснe і не перагружае» сучасных гледачоў. Таму Дар'я і тут не застаецца «ў рэзерве», актыўна ўдзельнічае ў выстаўках.

Першыя вынікі творчага развіцця, такім чынам, сведчаць пра годную прафесійную падрыхтоўку і асабістае творчае жаданне не стаяць на роўным, аднойчы знойдзеным ды засвоеным месцы. Маладая мастачка шчыра ўдзячная сваім шматлікім педагогам А. Бараноўскай, Г. Багданавай, І. Марачкіну, В. Клімушку, А. Ксяндзову, В. Герасімаву, У. Тоўсціку, Ю. Падоліну, А. Бохан і інш., якія паверылі ў яе здольнасці і дапамагалі ў крэатыўным самавызначэнні. Як адзначыў на абароне дыпломных прац акадэміі заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Уладзімір Зінкевіч, жывапісныя творы Дар'і Раманенка ўжо сёння могуць прадстаўляць наватарскае беларускае мастацтва на любым самым прэстыжным міжнародным узроўні.

**Яўген ШУНЕЙКА**

# Покліч да прасвятлення

**Калі душа ўзаемадзейнічае з прыродай, калі не губляецца жаданне падзяліцца трапяткімі пачуццямі, калі квітнееш побач з вясновымі кветкамі і ў любых выпадках песціш жаданне любіць... Сябар Беларускага саюза мастакоў, выкладчыца Мінскага мастацкага каледжа імя Аляксея Глебава Святлана Кастрыца на працягу дваццаці год плённай творчасці трымае цесную сувязь з прыродай і вучыцца не губляць святло ў душы. У мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» працуе яе выстаўка «Прастора і святло».**

На выстаўцы прадстаўлены работы трох перыядаў творчасці Святланы Кастрыцы. Сярод іх такія жанры, як партрэт, пейзаж, нацюрморт, алегарычная карціна. На адкрыцці экспазіцыі куратар праекта, мастацтвазнаўца, культуролаг Ксенія Сяліцкая-Ткачова падрабязна распавяла, чым адметныя работы кожнага перыяду. Так, ранні перыяд — гэта пераважна эксперыментальны жывапіс (работы ў напрамку фавізму, кубізму, экспрэсіянізму). Гэта час пошуку сябе, тэм і блізкіх вобразаў, якія натхняюць. Разнастайнасць тэм і сюжэтаў дазволілі мастачцы праявіць сябе як асобу таленавітую, здольную бачыць у звычайных рэчах, з'явах прыроды ўнікальнасць. А гэта падуладна не кожнаму. Незалежна ад жанру, практычна ўсе работы творцы паглыбленыя ва ўнутраную прастору, тут аўтар пачынае па-філасофску трактаваць тэму святла. Менавіта ў раннім перыядзе творчасці Святлана раскрывае сябе як лірык. Яе творы — нібы душэўная споведзь, што чытаецца праз эмацыянальны настрой кампазіцыі.

Далей мастачка плённа працавала ў напрамку рэалізму. Адточвала майстэрства стварэння ідэальнай формы і шукала больш разнастайныя спосабы выказвання, зноў жа, многа працавала з колерам. Менавіта тады Святлана Кастрыца звярнулася да пейзажу, які і сёння займае ці не галоўнае месца ў творчасці. Мастачка пранікаецца сэнсам падзей, працэсаў, і гэта дазваляе ёй разважаць глыбока.

Што датычыць цяперашняга этапу творчасці, то заўважна, наколькі на мастачку паўплываў імпрэсіянізм. Пачуцці Святлана Кастрыца выказвае пры дапамозе колеравай палітры. Многія творы мастачкі апошняга перыяду напісаныя падчас шматлікіх пленэраў як у Беларусі, так і за мяжой.

На ўспрыманне свету, мастацкі стыль аўтара паўплывалі таленавітыя выкладчыкі, якія дапамаглі ёй адчуць адметнасць да роднай зямлі. Святлана Кастрыца адзначыла:

— На станаўленне мастака, як правіла, уздзейнічаюць людзі, якія знаходзяцца побач. На мяне аказалі ўплыў мае дарагія настаўнікі Віктар Грамыка і Барыс Аракчэеў. Іх творчыя пошукі ў сферы жывапісу, каларыту, працы са святлом сталі надзвычай важнымі. Далей была вучоба ў творчых майстэрнях, сустрэча з Міхаілам Савіцкім. Колер у сваёй творчасці я вылучаю як асноўны выразны сродак. Якія б ні былі мае пошукі ў разнастайных напрамках, жанрах, гэты складнік не мяняецца. Выстаўкай хацелася б паказаць, што душа імкнецца да святла, прагне яго заўсёды. Гэта значыць, што ўнутраны голас заклікае да прасвятлення.

**Вікторыя АСКЕРА**



*Мармуровая скульптура і сухія кветкі, 1998 г.*

# Выйсці са сну

**Напэўна, айчынны глядач лічыць, што беларускія рэжысёры са сваімі стужкамі хаваюцца дзесьці ў катакомбах... Пра іх не пачуеш, калі толькі не зацікавішся, іх не ўбачыш, калі толькі не захочаш. З іншага боку, гэта можа сведчыць толькі пра тое, што не кіно хаваецца ад гледача, а глядач — ад фільмаў. Сёлета межаў паміж беларускім кіно і гледачом існаваць не павінна: лепшыя айчынныя стужкі паказалі ў нацыянальнай праграме кінафестывалю «Лістапад».**

Пазнаёміцца з публікай беларускаму кінематографу дапамагаюць 10 маладых фільмаў. Рэжысёры ўздымаюць не толькі асабістыя праблемы беларусаў, але звяртаюцца і да глабальнага, агульначалавечага. Часам кінематаграфісты крыўдуюць: чаму беларускае кіно не ў асноўнай конкурснай праграме? Арганізатары, па словах Ігара Сукманава, ствараюць не гета, а лабараторыю — менавіта такім уяўляецца сённяшняе беларускае кіно: эксперыментальным, якое яшчэ расце, і плады — наперадзе.

Тым не менш рэжысёры не маўчаць. Іх кінематаграфічная сістэма каардынат, можа, і не супадае з сусветнай, але спадзявацца на інтэграцыю трэба абавязкова: фільмы адлюстроўваюць сучаснасць не такой, якой хацелася б бачыць нам, а якая яна насамрэч. І гэта вартае глядацкай увагі.

Кароткі метр у нацыянальнай праграме арганічна спалучаўся з гадзіннымі стужкамі. Лёгкае, ненавязлівае кіно пра каханне суседнічала з фільмамі пра экалогію. У беларускім кіно ўсё магчымае: яно выходзіць з глыбокага, зацягнутага сну.

Трыумфатар мінулагодняга фестывалю Мікіта Лаўрэцкі вяртаецца на «Лістапад» не толькі з новай стужкай, але і з дакументальным фільмам пра сваю дзяўчыну (у пазаконкурснай праграме). «Каханне і партнёрства» — кіно больш дарослае за «Беларускага псіхапата». За год Лаўрэцкі пасталеў яшчэ і ў рэжысёрскім плане: фільм з акцёрскай ігрой (якая амаль адсутнічала мінулым разам), з больш якасным выкананнем і прывабным увасабленнем. Ды і тэма хоць і не новая, але актуальная: хлопец і дзяўчына шукаюць сябе і паасобку, і як пара. І ў некаторыя моманты разуменне таго, што ад кахання да партнёрства — адзін крок, прымушае задумацца і пра ўласныя пачуцці.

Рэжысёр Іна Грабарэнка таксама закранае пытанне кахання. Герой яе «Сустрэчы» спрабуе шукаць сэнс жыцця. Прычым сэнс новы, бо мінулы ён згубіў. У стужцы ёсць і адчужанасць разгубленага чалавека, і нежаданне выходзіць з нечаканай, непатрэбнай сітуацыі, але наш свет такі, што быць у адзіноце нам наўпрост не ўласціва. Шчасце знаходзіцца даволі хутка: трэба толькі прайсці праз некалькі стадый — ад адмаўлення да прыняцця — і зразумець, што кожная сустрэча не выпадковасць.



*Кадр з фільма «Мой брат».*

Фільмы, якія паказалі на «Лістападзе», звязаныя нябачнай ніткай: ад тэмы да тэмы рэжысёры быццам перадаюць адзін аднаму эстафету. Ігар Асмалоўскі ў сваім «Хамуце» гаворыць пра тое ж самае паняцце шчасця, але дадае яшчэ і пытанне сумлення. Герой карціны знаходзіць не прызначанае яму — такое вось шчасце. Зладзіўшы змову з сумленнем, ён забірае тое, што яму не належыць. Але сумленне, як і знойдзены скарб, становіцца хамутом героя. Як чалавеку справіцца з сабой, сваімі жаданнямі? Ці можа нечаканая знаходка даць шчасце? На гэтыя пытанні Ігар Асмалоўскі адказвае ў «Хамуце».

Кірыл Галіцкі вяртае нас усё да той жа праблемы пагаднення з сумленнем. «Называйце гэта як хочаце» — стужка пра людзей, якія, магчыма, у мінулым зрабілі няправільны выбар ці ім проста недастаткова шчасця (яго ж заўсёды хочацца больш, чым ёсць). Чалавечая прырода патрабуе кахання, задавальнення, а бывае, што і звычайнага паразумення, якое не заўсёды знаходзіцца з тымі, хто побач. Што штурхае чалавека на здраду? Як з гэтым жыць? Ці можна пазбавіцца зробленага ўчынку? Адказы варта шукаць у фільме Кірыла Галіцкага.

Стужка Роберта Сенекі «Кансьерж» ужо праверана некалькімі фестывалямі: яе паказвалі на СРМ і ўзнагародзілі на *Bulbamovie*. Фільм пра жыхара шматпавярхоўкі, які незадаволены паводзінамі кансьержа, насамрэч распавядае пра многае іншае: хаця б пра тое, што часам выбар зрабіць цяжэй, чым здаецца, бо ніякага выбару наогул не існуе. Пра тое, што праява ініцыятывы можа быць не проста неўхваленай, але і непатрэбнай, бо ўсё ўжо вырашана. Нязгода героя мірыцца з прапанаванымі абставінамі, спроба дагрукацца да праўды і барацьба з неразуменнем — такія блізкія нам праблемы, пра якія ненавязліва распавядае рэжысёр.

Сёлета «Лістапад» прапануе звярнуцца і да тэмы экалогіі: у «Лічыльніку шчасця» Ігара Чышчэні ўзгадвае пра Чарнобыльскую трагедыю (нават з біяграфічнымі момантамі з жыцця рэжысёра) і паказвае, як трэба вымяраць шчасце, ці магчыма і ці патрэбна гэта. Стужка Дзмітрыя Рачкоўскага і Андрэя Крывецкага «Дваццацьшаснаццаць» паказвае жыццё чалавека ў татальнай адзіноце (прыгожы «апакаліпсіс» з маляўнічымі пейзажамі), але з вялізнай надзеяй, якая можа нечакана ператварыцца ў попел.

Влада Сянькова ў фільме «Граф у апельсінах» (які, дарэчы, зняты з дапамогай краўдфандынгу) распавядзе аб праблемах ці, хутчэй, развагах маладых: што для іх цікава? Чаму яны руйнуюць жыццё ў гонцы за модай? Як знайсці выхад з невырашальнай сітуацыі, калі ёсць сябры? Добрае, шчырае кіно пра лета, сяброўства, каханне і пошукі сябе, шчасця і будучыні. Дарэчы, файны спосаб развітацца і з цеплынёй лета, а для кагосьці — і са старым жыццём.

«Мой брат» Нэлы Васілеўскай — стужка таямнічая, з усімі гісторыямі пра русалак-чараўніц, прыгожымі пейзажамі беларускага лесу. Але за прывабнай знешнасцю хаваюцца братняя любоў і рэўнасць. У стужцы раскрываецца сутнасць паняццяў і кахання, любові, прабачэння, сумлення — сапраўдны філасофскі роздум маладога рэжысёра. Фільм, які ў чарговы раз даказвае, што ад кахання да нянавісці — адзін крок. Радуе толькі тое, што калі пачуцці сапраўдныя, то нянавісці нестае.

Кіно Віктара Красоўскага «Душы мёртвыя» чакалі даўно, пра стужку шмат казалі і пісалі. Фільм зняты адным планам, таму ад героя да героя, ад гісторыі да гісторыі глядач плаўна рухаецца ўслед за камерай. Гісторыя прадпрыемства, на якім працуюць людзі з абмежаванымі магчымасцямі, пра тое, як чалавек можа быць нашмат горшым, чым здаецца, пра тое, як беларус мог бы напісаць другую частку «Мёртвых душ».

Паглядзеўшы ўсе гэтыя стужкі ці хоць бы некаторыя з іх, можна са спакойнай душой сказаць: «Беларускае кіно выйшла са сну». Так і ёсць: рэжысёры гатовыя гаварыць з айчынным гледачом. А ці гатовы да дыялогу глядач?

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Героі новага часу

**Мы прызвычаіліся да таго, што нашае жыццё занатоўваецца ў кнігах. Адсюль і ўся гісторыя, якую мы любім вывучаць і чытаць. Але колькі дробязей выпадае з-пад увагі літаратуры, яна, на жаль, не можа адлюстраваць і захаваць усе нюансы жыцця. Тут спрацоўвае дакументальнае кіно. Жыццё, з усімі яго перавагамі і недахопамі, занатавана ў ім надзвычай поўна.**

Для Беларусі дакументалістыка ўжо доўгі час з'яўляецца брэндам: прынамсі, студыю «Летапіс» добра ведаюць за межамі, а ў нашых дакументалістаў варта павучыцца адлюстраванню жыцця краіны і чалавека ў тых умовах, у якіх часам ім даводзіцца ствараць сваё кіно. Дакументалістыка заўсёды выконвала абяцанні, якія давала. Выканала іх і сёлета: у нацыянальным конкурсе «Лістапада» мы ўбачылі неігравое кіно, з якім абавязкова трэба пазнаёміцца беларусам.

Калі ў асноўным конкурсе дакументальнага кіно распавядалі пра космас, Аўстэрліц, праблемы бацькоў і дзяцей, цыганскіх футбалістаў і нават пра сяброўства з Барысам Нямцовым, то ў беларускіх неігравых фільмах нас чакалі рэчы больш блізкія…

Айчынныя кінематаграфісты заўсёды любілі паразважаць на тэмы, якія зацікавяць у першую чаргу беларуса: пра што ён клапоціцца? Што яму абавязкова трэба ўбачыць ва ўласнай краіне? Якіх выбітных дзеячаў ці неверагодных сучаснікаў ён павінен ведаць? Ва ўсе часы рэжысёры шукалі адказы менавіта на гэтыя пытанні. Амаль тое ж і сёння.

Героі новага часу, якія яшчэ не сталі вядомымі за мяжой, а можа, і не стануць наогул, зараз самыя важныя для беларускіх кінематаграфістаў: тут і Аляксандр Аўдзевіч, які, нягледзячы на ўсе перашкоды, здзейсніў мару — дабраўся да Балтыйскага мора; тут і акцёры масавых сцэн, якіх ніхто ніколі не заўважае і не ведае па імёнах. Чатыры стужкі знаёмяць нас з гісторыяй ці геаграфіяй роднай краіны: падарожжа па Гальшанскім замку, экспедыцыя ў Крэўскі замак, прыгоды ў замку Быхаўскім, вандроўка ў Друю. Усё тое, што калісьці было для нас загадкавым і невядомым, зараз апынецца нібы на далоні: рэжысёры самі распавядаюць пра родны край, ладзяць экскурсіі і дазваляюць наталіцца краявідамі беларускіх прастораў.

Андрэй Куціла, пераможца мінулагодняга «Лістапада» за дакументальны фільм «Госці», сёлета прадставіў новую стужку — «25». Кіно пра пакаленне 25-гадовых беларусаў, пра іх мары, амбіцыі, жаданні і паўсядзённае жыццё. Не забываюцца беларускія кінематаграфісты і на тэму вясковую. «Ты сюды больш не вернешся» — 1,5-гадзінная стужка, у якой рэжысёр сочыць за жыццём пажылой жанчыны, якая спрабуе развітацца з вясковай хатай.

Асаблівую ўвагу варта звярнуць на стужку «Саламанка», якая, магчыма, і не ўпісваецца ў тую карціну, якую ствараюць беларускія дакументалісты: рэжысёры Аляксандра Кулак і Руслан Фядотаў знаёмяць гледача з мексіканскай Саламанкай — паселішчам, дзе жыццё спынілася і рухацца далей быццам не збіраецца.

Айчынная дакументалістыка якраз наадварот: рухаецца ў напрамку сусветных кінатэндэнцый з усё большай хуткасцю. Бо інакш нельга — трэба паспець і за індустрыяй, і за патрабавальным гледачом.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Акадэмічныя нестандарты

**Сёння набіраюць папулярнасць альтэрнатыўныя пляцоўкі. Але не варта думаць, што нефарматныя выступленні — прэрагатыва выключна фестываляў і хатніх гарышчаў для вельмі вузкага кола. Акадэмічны тэатр развіваецца згодна з часам.**

Камерная сцэна Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы адкрылася летась і стала своеасаблівым увасабленнем малой сцэны, якая дагэтуль на рамонце. Раней тут была вялікая рэпетыцыйная зала, у якой ладзіліся розныя мерапрыемствы. Пазней Мікалай Пінігін, мастацкі кіраўнік тэатра, вырашыў выкарыстаць яе як сцэну для эксперыментальных праектаў.

Першым праектам, распрацаваным адмыслова для камернай сцэны, стаў спектакль «Антыгона». Яго паставіў студэнт, яшчэ не дыпламаваны рэжысёр Мікалай Капульцэвіч. Класічная пастаноўка змянілася не толькі за кошт сучаснага «аўтарскага бачання», але і з-за мінімалізму ў дэкарацыях, ды і шынелі на героях — як лакальны модны трэнд. Тэатр не адстае ад новых плыняў: другім праектам камернай сцэны сталі "Шабаны" паводле сучаснага беларускага пісьменніка А. Бахарэвіча.

Трэці — спектакль «Каханне як мілітарызм» па п'есе Пятра Гладзіліна. Праца выпускніка рэжысёрскага факультэта Дзмітрыя Цішко. Гэта гісторыя дзяўчынкі з «інтэлігентнай сям'і». З галоўнай гераіняй мы быццам у хуткай перамотцы вандруем праз яе дзяцінства, юнацтва і маладосць, паралельна назіраючы за тым, як жыве творчая інтэлігенцыя.

На афішах вы ўбачыце прывабнае слова «камедыя», але не варта падманвацца ні жанрам, ні кідкай назвай: у каханні, як і на вайне, без болю не бывае. Спектакль, прывабіўшы гледача на рамантычную камедыю, пускае яго ў свет чалавечага глупства, глухаты і слепаты, але ў яркай абгортцы. Мы бачым цэлы шэраг тыпажоў, так ці інакш знаёмых па жыцці: жанчына з двума дзецьмі, якой здраджвае муж, легкадумная какетка, якая забывае пра дачку, сучасная лэдзі, якая ніколі не збіраецца заводзіць дзяцей, і бабуля, якая ўзяла ад маладосці ўсё, але так і не знайшла агульнай мовы са сваімі дачкамі.

Тэатр, у адрозненні ад кіно, мае больш абмежаванняў па рэалізацыі таго ці іншага візуальнага вобраза. У гэтым плане «Каханне як мілітарызм» — спектакль асаблівы, таму што яго сцэнарый першапачаткова ствараўся для кіно, хоць пазней і быў адаптаваны П. Гладзіліным для тэатра.

У кіно гэта выглядала б натуральна, але на камернай сцэне гледачу даводзіцца задзейнічаць усе свае ўяўленні і адпускаць аб'ектыўную рэальнасць, якая сцвярджае: гэтыя дарослыя людзі, якія скачуць па кубах з самалёцікамі ў руках, проста дурэюць, а зусім не вядуць метафарычны слоўны бой, што губіць усё іх жыццё…



*Сцэна са спектакля «Каханне як мілітарызм».*

«Каханне як мілітарызм» — спектакль шматгранны. Падымаюцца тэмы сям'і, адносін з мужам, дзецьмі. Галоўная гераіня знаходзіцца ў самым цэнтры вар'яцкіх скокаў быццам бы інтэлігентных людзей і іранічна і горка каментуе падзеі, што адбываюцца ў тым ліку з ёй самой. І ніхто, акрамя гледача, не заўважае гэтага, таму што ўсе героі хай і каларытныя, але страчаныя. Яны адна сям'я, але не ведаюць, не бачаць і не чуюць адзін аднаго. Кожны сам у сабе.

І з такім «напаўненнем» дзіўна было б чакаць прыкры *happy end*, дзе ўсе, узяўшыся за рукі, гучна б крыкнулі: «І мы шчаслівыя!» Фінал «Кахання» б'е моцна, выразна. Ён нават крыху шакіруе, калі глядач, убачыўшы апошнюю сцэну, збірае папярэднія падзеі ў адно і ўсведамляе, што інакш, увогуле, і быць не магло. Гэта страшна і жорстка, але вельмі дакладна.

«Каханне як мілітарызм» — тое, што трэба, калі вам падабаюцца моцныя трагікамедыі ці проста цікавяць незвычайныя тэатральныя пляцоўкі. На камернай сцэне асабліва каштоўная блізкасць акцёраў да гледача: яна захлынае плынню эмоцый.

**Мы пагутарылі з некалькімі акцёрамі, пацікавіліся асаблівасцямі ігры на камернай сцэне.**

**Мікалай Кірычэнка, народны артыст Беларусі:**

— Калі мы выходзім на вялікую сцэну, ведаем, што чацвёртая сцяна — гэта гледачы. А тут амаль тры чацвёртыя сцяны. Практычна эфект цыркавой арэны. Добра — хоць адна сцяна свабодная. Перад акцёрам складаная задача: ахапіць усіх. Неабходна мець поўны кантроль над целам, голасам і дзеяннямі. Нельга проста павярнуцца ў адзін бок і паўгадзіны так гаварыць: хтосьці з гледачоў абавязкова апынецца за спінай. Патрэбна асаблівая энергетыка, рашэнне мізансцэны для таго, каб ахапіць аўдыторыю і злева, і справа, і перад табой.

**Зінаіда Зубкова, народная артыстка Беларусі:**

— Галоўная асаблівасць камернай сцэны — малая прастора. Акцёр іграе не так гучна, як іграў бы на вялікай сцэне, у яго няма такой шырыні рухаў, ён таксама не можа хлусіць.

Тое, што глядач блізка, зусім не замінае іграць. Наадварот: мне трошкі хочацца пагаварыць з ім. І ён тут жа прымае мяне.

**Святлана Анікей, актрыса тэатра і кіно:**

— Камерная сцэна — гэта, напэўна, бліжэй да кіно. Тут заўсёды буйны план. Ты ўваходзіш з гледачом у асаблівы кантакт, нават, можна сказаць, інтымны.

**Валерыя ДЗЯТКОВА,**
**Святлана КУРГАНАВА**

# Экспрэс з'ехаў, французы засталіся

## Адзін з удзельнікаў сумеснага праекта — пра тэатр і Беларусь


*Габрыэль Пік.*

«Прывітанне, мяне завуць Габрыэль, я з горада Лімож, з Францыі. Цяпер вучуся ў Мінску "на тэатр". Не хочаш сустрэцца?»

Такое арыгінальнае паведамленне прыйшло мне на сайце каўчсёрфінг.

«Француз, які жыве ў Мінску і вучыцца "на тэатр"? — разважала я. — Гарантую: удзельнік міжнароднага тэатральнага аб'яднання "Тэатро". Яны яшчэ ў РТБД спектакль у жніўні паказвалі — "Французскі экспрэс"», — і без лішніх сумненняў пагадзілася на сустрэчу.

Маё меркаванне аказалася правільным. Цэлы месяц Габрыэль Пік і яшчэ 17 франкамоўных хлопцаў вывучалі тэатральнае майстэрства ў Мінску. І спектакль-канцэрт «Французскі экспрэс» стаў своеасаблівым іспытам — паказам усяго, што яны вывучылі.

— Гэта быў месяц інтэнсіўнай стажыроўкі, каб пазнаёміцца з дысцыплінамі, якія вывучаюць студэнты Беларускай акадэміі мастацтваў. У нас былі майстар-класы па спевах, класічным танцы, акрабатыцы, тэмпарытме, дыкцыі, сцэнічны баі і, канешне, па акцёрскім майстэрстве. Выдаўся сапраўды цікавы месяц, трэба было шмат працаваць, і напрыканцы мы вельмі стаміліся, але мне гэта стажыроўка дапамагла перамагчы сябе і адкрыць новыя магчымасці.

«Французскі экспрэс» — гэта не сапраўдная п'еса з асобнымі ролямі, а тэатральныя замалёўкі максімум на 5 хвілін, дзе кожны прэзентаваў невялічкі эцюд: чалавечая сітуацыя, пародыя, а таксама песні, танцавальныя і музычныя нумары на абедзвюх мовах.

А пасля прэм'еры, напрыканцы жніўня, амаль усе раз'ехаліся, а Габрыэль і яшчэ некалькі маладых акцёраў вырашылі застацца ў Беларусі. І цяпер іх чакае амаль цэлы год у Мінску. Яны працягнуць сваё навучанне, наведаюць мноства беларускіх гарадоў, пазнаёмяцца з нашым мастацтвам (тэатральным і не толькі).

— Я вырашыў застацца ў Мінску, таму што мяне вельмі цікавіць падыход да тэатра «а ля рус», асабліва сістэма Станіслаўскага, — гаворыць Габрыэль. — У Францыі мы не маем тэатральнай школы, якая б прапаноўвала такое навучанне. Па маім меркаванні, падыход да тэатра ў маёй краіне больш «ад галавы». Напрыклад, няма нават і думак пра тое, што для тэатральнай практыкі трэба вывучаць фехтаванне! А тут гэта з'яўляецца часткай навучання. І ў гэтым, мне здаецца, істотная розніца. Палітра дысцыплін у вашай тэатральнай школе больш багатая і накіраваная не толькі на тэкст і слова, а таксама на цела і пластычную выразнасць. І менавіта гэта мяне цікавіць.

Акрамя нашай тэатральнай школы, Габрыэля вабіць руская і беларуская мовы. І гэта яшчэ адно фантастычнае адкрыццё, зробленае падчас нашай гутаркі. Аказалася, што дома хлопец тры гады вучыўся ў лінгвістычным інстытуце. Вывучаў нямецкую, англійскую і рускую мовы. А беларускую стаў вучыць, як прыехаў у Беларусь. І гэта яго пятая мова.

— Мне падабаецца беларуская мова. Некаторыя гукі, напрыклад «г», мне цяжка вымаўляць, але ад гэтага цікавасць толькі расце. Мне ўвогуле падабаюцца ўсе мовы свету! Але, ведаеш, я не разумею, чаму так мала беларусаў размаўляюць па-беларуску, — здзіўляецца малады чалавек.

Я не ведаю, што яму адказаць, але Габрыэль працягвае:

— Я вырашыў, што гэта проста звычка. Па-руску размаўляюць на вуліцы, у сям'і, на працы, вывучаюць гэтую мову ў школе. Няма падстаў думаць, што гэта звычка не зменіцца. Але добра, што пры гэтым беларускую мову вывучаюць у школе, бо гэта захоўвае яе хаця б у галаве і не дазваляе ёй знікнуць.

За размовамі пра Францыю і Беларусь мінае амаль цэлы дзень. Скончыць нашу сустрэчу я вырашыла паходам у тэатр. Мы разам выбралі музычны спектакль «Сабака на сене» ў «Тэрыторыі мюзікла», дзе іграе адна з выкладчыкаў «Тэатро» Ілона Казакевіч.

— Шчыра сказаць, дома я рэдка хаджу ў тэатр. У маёй сям'і няма такой звычкі. Я мяркую, у Францыі ўвогуле тэатр наведваюць тыя, хто ім займаецца, хто там працуе, хто яго вывучае альбо людзі досыць забяспечаныя. А ў вас, як я заўважыў, часта наведваюць тэатр. І вы нават выглядаеце інакш. Я заўважыў, што беларусы ставяцца да паходу ў тэатр як да асаблівага рытуалу: пэўны настрой, шыкоўнае адзенне, кветкі акцёрам. У нас жа да таго, як апрануцца, ставяцца больш проста. Акцёрам, канешне, апладзіруюць, але кветкі дораць вельмі рэдка, хіба што на вялікія паказы.

Але, седзячы ў зале падчас паказу ў беларускім тэатры, хлопец не «тушуецца»: і смяецца, і апладзіруе, і раней мяне падымаецца на паклоны — як прафесійны глядач.

— Мне вельмі падабаецца сустракацца з людзьмі, даведвацца, што яны думаюць пра сваю радзіму, пра Францыю, а таксама распавядаць, што я думаю пра Беларусь. Я вандраваў па Беларусі, наведаў Гомель, Віцебск, Полацк, Брэст і, дзякуючы каўчсёрфінгу, правёў некалькі цудоўных дзён у некаторых гарадах з беларусамі. Вось яшчэ адзін цудоўны дзень у Мінску, і мне нават няёмка, бо, здаецца, у Беларусі мяне прымаюць як вельмі дарагога госця.

**Аляксандра ГАРАЧКА**

# ВОДГУЛЛЕ ФЛАРЭНТЫЙСКАГА ЛЕТА



Царква Санта Марыя Навэла.

## ПАНТЭОН САНТА КРОЧЭ

Інтрыга падарожжа часта заключаецца ў тым, што спачатку разглядаеш пэўны помнік, уважліва аналізуеш яго, а толькі потым даведваешся, як ён называецца.

Прыклад першы. Недалёка ад дома, дзе я жыла ў Фларэнцыі, знаходзілася надзіва прыгожая царква — Санта Марыя Навэла. З захапленнем агледзела яе, але пазней, ужо ў Мінску, з друкаваных крыніц даведалася: менавіта ў ёй пачынаецца дзеянне «Дэкамерона» Бакача. Тады пабачанае напаўняецца зусім іншым сэнсам.

Прыклад другі. Плошча. Спрабую сфатаграфаваць фасад сабора фантастычнай красы. Не атрымліваецца. Бо на плошчы — шэрагі крэслаў для гледачоў. На сцэне перад храмам якраз усталёўваюць асвятляльную апаратуру. Плакат кажа, што неўзабаве адбудзецца канцэрт трох маладых тэнараў, падапечных Пласіда Дамінга. Некалі ён, Паваросці і Карэрас здзівілі музычны свет сумеснымі праектамі і паклалі пачатак цудоўнай традыцыі.

Трапіўшы ў сабор, разумею, што Санта Крочэ, або базіліка святога Крыжа, — гэта пантэон. Тут пахавана каля 300 самых знакамітых асоб, якія жылі ў Фларэнцыі і паўплывалі на развіццё мастацтва і навукі свету. Легенда сведчыць: храм быў заснаваны Францыскам Асізскім. Гэта самая буйная ў свеце францысканская царква, знакамітая фрэскамі Джота. Адзін з лепшых італьянскіх узораў гатычнага стылю.

План царквы, надрукаваны на асобнай паперцы (ёсць схема і ў саборы), падказвае, дзе шукаць пахавальні вялікіх людзей. У іх пабудове ёсць штосьці агульнае. Мармуровае ложа з постаццю памерлага знаходзіцца на вяршыні саркафага. Зверху збудаванне мае арку на дзвюх калонах.

У Санта Крочэ знайшлі спачын два геніяльныя кампазітары — італьянец Джаакіна Расіні і беларус Міхал Клеафас Агінскі. Над саркафагам мысляра Нікола Макіявелі знаходзіцца алегарычная фігура Дыпламатыі. Грабніца Мікеланджэла Буанароці выканана Вазары. Над саркафагам — бюст знакамітага мастака, а ў ніжняй частцы — фігуральныя (вобразныя) постаці — Жывапіс, Скульптура і Архітэктура.

Галілеа Галілей нарадзіўся ў Пізе, але большая частка ягонага жыцця прайшла ў Фларэнцыі. Са школьных гадоў памятала: астраном Галілей першы выкарыстаў тэлескоп для назірання за нябеснымі свяціламі. Але не ведала, што вучоны лічыцца заснавальнікам эксперыментальнай і тэарэтычнай фізікі. Дарэчы, бацька Галілея — вядомы тэарэтык музыкі і лютніст. У гэтым жа храме знайшлі свой апошні прытулак мастак і архітэктар Джота, а таксама архітэктар Філіп Брунелескі. Дантэ пахаваны ў Равене, а ў Санта Крочэ — толькі ягоны кенатаф. Паміж уладамі гарадоў дагэтуль ідуць спрэчкі, дзе павінен захоўвацца прах паэта. Бо ў свой час Дантэ быў надоўга выгнаны з роднага горада.

Вядома, у прасторы Санта Крочэ, незвычайна прыгожага храма, дзе акрамя саркафагаў хапае і памятных дошак, перажываеш шмат пачуццяў. І піетэт перад вялікім асобамі, і захапленне тым, як захоўваецца памяць пра іх. Тут востра адчуваеш хаду часу. Але ўзнікае і парадаксальная думка. Традыцыйныя могілкі — гэта часцей за ўсё месца скрухі і гнятлівых эмоцый. Калі знакаміты чалавек пахаваны ў саборы, дзе сувязь з Богам адчуваецца асабліва моцна, ва ўспрыманні ягонае смерці менш трагічнасці. А болей усведамлення боскай сілы, якая даецца таленту або генію.

Выйшла з сабора, яшчэ раз уважліва агледзела фасад, мармуровыя карункі, пяшчотныя спалучэнні белага і зялёнага колераў. Даведалася потым, што аздабленне фасаду, як і ў многіх фларэнтыйскіх саборах, зроблена нашмат пазней — толькі 150 гадоў таму.

## ДУОМА І ВАКОЛ

Але самае моцнае ўражанне чакала наперадзе. Сакральны цэнтр горада з плошчамі святога Іаана і Саборнай адкрыўся нечакана. Тут пануюць велічныя, агромністыя і адначасова ажурна-лёгкія будынкі.

Адсюль не хочацца сыходзіць. Імкнешся абысці з усіх бакоў, ды не па адным разе. Падоўжыць, наколькі магчыма, адчуванне рукатворнага цуду. Кафедральны сабор — ён жа Дуома, ён жа Сабор святой Марыі з кветкай. Званіца Джота — яна ж Кампаніла. Нарэшце Баптыстэрый (месца хрышчэння). Унутраная еднасць чуецца нават у аздабленні фасадаў усіх будынкаў, у віртуозным выкарыстанні белага, бледна-ружовага і бледна-зялёнага мармуру.

Баптыстэрый узнік на плошчы першым, яшчэ ў V стагоддзі. Пазней тут хрысцілі Дантэ і многіх знакамітых людзей. Можна шмат напісаць пра звод купала, аздоблены візантыйскімі мазаікамі. Пра фантастычна прыгожыя дзверы Баптыстэрыя, зробленыя Ларэнца Гіберці, якія называюць Брамай раю. Але лепей гэту немагчымую прыгажосць пабачыць на ўласныя вочы. У Дуома кожны ахвотны можа трапіць свабодна і нават бясплатна. Чарга ёсць, але невялікая, хвілін на 10 — 15. Праўда, як і ў любы храм, у пляжным адзенні, шортах і з голымі плячыма не ўвойдзеш. Паліцэйскія спыняюць.

Вонкавае аздабленне, зробленае ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, надзвычай захапляе. Але ўнутры сабор мае досыць сціплае ўбранне. Тут пануе атмасфера строгасці і нават суровасці. Мо лічылася, што падчас службы нічога не павінна адцягваць увагу ад малітвы? Вялікія храмы, якія ўбачыла ў Фларэнцыі да Дуома або пасля, — Санта Крочэ, Санта Марыя Навэла — уражвалі багаццем як экстэр'ераў, так і інтэр'ераў.

У Дуома здзіўляе памер сабора. Калі асноўныя працы тут скончыліся, гэта сярэдзіна XV стагоддзя, сабор лічыўся самым вялікім у Еўропе. У ім маглі адначасова знаходзіцца 30 тысяч чалавек. Заўважу, узвядзенне ішло амаль пяць стагоддзяў. Пагадзіцеся, не кожны горад можа дазволіць сабе такі размах.




Санта Крочэ. Месца пахавання Расіні.

## ДА «ЛІХТАРЫКА» — 400 ПРЫСТУПАК

Калі знаходзішся ў саборы, роспісы Вазары, зробленыя ўнутры купала, разгледзець як след немагчыма. Найлепшае выйсце — узняцца на ніжні ўзровень сферычнай канструкцыі. Падрыхтоўчыя працы і будаўніцтва (пэўны час сабор стаяў без даху) было ажыццёўлена за 16 гадоў. Архітэктурны шэдэўр Брунелескі мае ў дыяметры 45 метраў.

Квіток, які дае магчымасць узняцца на дах Дуома і Званіцу, знутры пабачыць Баптыстэрый і наведаць музей сабора, каштуе 15 еўра. Чарга немалая, ахоплівае палову сабора. Але ўсе цярпліва стаяць, нават з дзецьмі на руках. Чакала хвілін 30 — 40, бо цікаўных запускаюць невялікімі партыямі.

Згадала, як 20 гадоў таму ў Рыме, агледзеўшы музеі Ватыкана, нечакана адшукала ліфт. Ён даваў магчымасць трапіць на вялікі і плоскі дах сабора святога Пятра. На ім дзе-нідзе стаялі скульптуры з белага мармуру. А далей можна ці спускацца ўніз, ці ўзнімацца пешкі па вузкай і пакручастай лесвіцы. Каб трапіць на самы верх, дзе знаходзіцца так званы «ліхтарык» сабора. Ну як адмовішся ад такой прывабнай перспектывы? Потым мо і пашкадуеш. Бо наперадзе і ззаду людзі, спыніцца няма магчымасці. Праўда, затым — як узнагарода — адкрылася вачам захапляльная карціна. І плошча перад саборам, і каланада Берніні, і *via della Conciliazione* (вуліца Прымірэння), і замак св. Анёла. Увогуле панарама Вечнага горада. Падобныя ўражанні застаюцца на ўсё жыццё.

У фларэнтыйскім Дуома — ніякіх ліфтаў. Толькі пешкі! Шчасце, што да фрэсак вядзе адна лесвіца, а на спуск — іншая. Інакш бы не размінуцца. Нарэшце! Людзі ўнізе маленькія як мурашкі. А роспіс на біблейскія тэмы, які на купале, цяпер візуальна становіцца непараўнальна бліжэй. Празрысты пластык засцерагае і людзей, і мабільнікі ад падзення.

Абыходзіш ніжнюю частку купала па перыметры, разглядаеш, дзівішся, здымаеш. Далей зноў прыступкі, каб трапіць на самы верх. Гэта магчыма, бо ў верхняй частцы купал двайны. Ягоная ўнутраная абалонка мае таўшчыню ў 2,2 метра, а знешняя, зробленая для большай закругленасці і абароны ад вільгаці, — 0,85 метра. Паміж імі ідуць 463 прыступкі. Вінтавыя лесвіцы вельмі крутыя. Дзе-нідзе на сценах бачыш аб'явы-заклікі на італьянскай і англійскай, кшталту «Калі ласка, не малюйце на сценах!». Тады заўважаеш, што аматараў графіці хапае паўсюль. Пакуль уздымешся, пяць разоў спытаеш сябе: «А ці варта было?» Улічым, што за сценамі горача, больш за 30 градусаў.

Але высілкі таго вартыя. Уся Фларэнцыя, увесь горад раскінуўся як на далоні. Мы — на ўзроўні 90 метраў, на вышыні птушынага палёту. Вядома, сыходзіць адсюль зусім не хацелася. Застацца б там гадзінкі на дзве-тры! Вядома, сапраўдны цуд — і Дуома, і роспіс Вазары, і купал вагой 27 тысяч тон. Як можна было без усялякіх камп'ютарных разлікаў і сучасных будаўнічых прылад гэта зрабіць? Загадка!

На жаль, кожнае падарожжа некалі заканчваецца. Аднак магутную энергетыку Фларэнцыі адчуваеш яшчэ доўга, нават вярнуўшыся ў беларускую рэальнасць. І калі думкамі пераносішся да сваіх італьянскіх уражанняў, кожны раз дзівішся: як можна жыць, дыхаць, пісаць пра мастацтва і думаць, што ў ім штосьці разумееш, не ўбачыўшы на ўласныя вочы гэтых цудаў готыкі, барока, помнікаў пазнейшых эпох, гэтых жывапісных і скульптурных шэдэўраў, плошчаў і палацаў, не падыхаўшы гаючым і натхняльным паветрам Адрыятыкі?! Наіўнасць і святая прастата…

**Таццяна МУШЫНСКАЯ,**
**фота аўтара.**

Працяг. Пачатак у № 44.

# Памяць і гонар

## захоўваюць нашчадкі скульптара Андрэя Бембеля



Мікалай Гусеў «Партрэт Клары Бембель», 1945 г.

**Памяць пра дарагіх людзей павінна існаваць у сэрцы кожнага. У знаёмай беларускаму грамадству сям'і Бембель так было заўсёды: павага і жаданне захаваць цёплыя ўспаміны паспрыялі таму, што сёння ў сямейным архіве налічваецца шмат фотаздымкаў, карцін і іншых рэчаў, якія нагадваюць пра народнага мастака Беларусі Андрэя Бембеля, яго блізкіх і сяброў.**

З нагоды 111-годдзя таленавітага скульптара ў офісе Беларускага саюза мастакоў (Я. Коласа, 29а) Тацццяна Бембель і Вера Бембель (яго ўнучка і праўнучка) падрыхтавалі ўнікальную выстаўку «Кола сям'і», у аснове якой — творы такіх вядомых майстроў мастацтва Беларусі, як Мікалай Гусеў, Акім Шаўчэнка, Фёдар Дарашэвіч, Соф'я Лі, Вітольд Бялыніцкі-Біруля, Мікалай Дучыц і іншыя. Усе экспанаты экспазіцыі звязаныя з сябрамі сям'і. Іх падарункі захоўваюць памяць пра дарагія і важныя падзеі.



Іван Карасёў «Пейзаж», 1967 г.

Адзін з вучняў Андрэя Бембеля Уладзімір Слабодчыкаў, які ўзначальвае кафедру скульптуры Беларускай акадэміі мастацтваў, на адкрыцці выстаўкі адзначыў: вельмі шкада, што людзі не заўсёды карыстаюцца дыктафонам, каб запісаць самыя цікавыя і важныя размовы. Некаторыя з такіх запісаў маглі б стаць неацэнным скарбам для культуры краіны.

На выстаўцы прадстаўлена шмат партрэтаў членаў сям'і Бембель. Адзін з іх — партрэт Клары, дачкі Андрэя Ануфрыевіча, які пасля вайны, у 1945 годзе, напісаў адзін з самых блізкіх сяброў сям'і Мікалай Гусеў. На ім дачка скульптара ў блакітнай сукенцы. Работа адразу была прадстаўлена на выстаўцы аўтара. Паколькі выставак у пасляваенны час было не так шмат, народ актыўна цікавіўся мастацтвам, на вернісаж прыйшло шмат людзей, пасля чаго Клару пачалі пазнаваць на вуліцы, знаёміцца. Пасля 1945 года партрэт ні разу не выстаўляўся і захоўваўся ў мастацкім архіве сям'і Бембель.

Адзін з самых важных экспанатаў для сям'і, па словах Тацццяны Бембель, — партрэт першай жонкі Андрэя Бембеля — Вольгі Бембель-Дзядок, створаны, зноў жа, Мікалаем Гусевым у 1941 годзе. У сям'і скульптара гэты твор яшчэ называюць партрэтам-прадчуваннем. Пасля яго стварэння — восенню 1941 года — Вольга Дзядок засталася адна з двума дзеткамі на руках у акупіраваным Мінску. Тры гады жанчына змагалася за сваю сям'ю і перамагла.

Вользе Бембель-Дзядок калісьці падараваў нацюрморт мастак Акім Шаўчэнка. Пра гэта сведчыць надпіс у правым ніжнім куце. Гэты твор на працягу многіх дзесяцігоддзяў упрыгожваў прастору каля гасціннага стала, вакол якога збіралася сям'я і самыя блізкія сябры.

Унікальны выпадак: на выстаўцы можна пабачыць адзін з твораў мастака Івана Карасёва, які, як і Андрэй Бембель, вучыўся ў Ленінградзе, у Акадэміі мастацтваў (скончыў на тры гады пазней). Пасля смерці Івана Карасёва мноства яго работ нечакана знікла, і сёння знайсці малавядомую работу аўтара практычна немагчыма. У сям'і Бембель, на шчасце, адна з такіх работ захавалася. Як і нацюрморт неверагоднай прыгажосці, каларыстычнае афармленне якога зачароўвае. Твор напісаны ў 1955 годзе мастачкай Соф'яй Лі, на год старэйшай за Андрэя Бембеля. Яна была блізкай сяброўкай Вольгі Бембель-Дзядок і падзяляла ўсе радасныя і сумныя падзеі. Творы мастачкі сёння вельмі складана знайсці ў краіне, таму іх наяўнасць у калекцыі — таксама гонар для прадстаўнікоў сям'і.

**Вікторыя АСКЕРА**

## *Культурны ракурс*

**Помнік Тарасу Рыгоравічу Шаўчэнку з'явіўся ў Гомелі, у гарадскім скверы, каля кінатэатра «Кастрычнік», у 2004-м — у год 190-годдзя з дня нараджэння выдатнага ўкраінскага пісьменніка і мастака. Сквер у свой час быў упарадкаваны ўласнымі сіламі гамяльчан і атрымаў ганаровае імя Кабзара.**

**У адзін з сонечных восеньскіх дзён, гуляючы па горадзе, я завітала на золата-чырвоны «востраў» да помніка. Ціхі шоргат апалага лісця, стрыманая гаворка пажылых жанчын на лаўках, дзіцячы смех, разбаўлены трывожнымі вокрыкамі маладых матуль, — усё гэта міжволі ўскалыхнула ў памяці радкі са знакамітага верша пісьменніка «Дума»:**

*Але жыць мне дай, Тварэц нябесны —*
*Дай мне сэрцам, сэрцам жыць!*
*Каб я хваліў твой мір дзівосны,*
*Каб мог бліжняга любіць!*

**Наталля ШАСТАКОВА**



*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторы і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Д. А. Чарняўская

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 10.11.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1606.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 4464

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686